Газета творчай інтэлігенцыі Беларусі



Літаратура і мастацтва

ISSN 0024-4686

№ 36 (4887) 9 верасня 2016 г.



# На харугвах гісторыі




Фота Сяргея Ніканoвіча.

*Урачыстае шэсце ў Дзень пісьменства ў Рагачове.*

…У той час, у тую хвіліну сярод сучасных будынкаў, уздоўж плошчы, пранесліся вершнікі. Шлемы і кальчугі блішчэлі на сонцы, чырвоныя плашчы развяваліся ў паветры, — не спыніць такіх. Нібыта з глыбінь вякоў вырваліся насустрач сваім нашчадкам. Сучаснасць стройнымі шэрагамі вітала сваю мінуўшчыну, узняўшы на харугвах гісторыі славу беларускіх гарадоў: Навагрудка і Нясвіжа, Хойнікаў і Паставаў, Шчучына і Заслаўя, Глыбокага, Пінска, Полацка… Усяго 23 харугвы, за кожнай — горад, якому ў свой час выпаў гонар быць сталіцай Дня беларускага пісьменства, прымаць свята, у якім сучаснасць павінна яднацца з гісторыяй. Прынамсі, паводле задумы.

Сучаснасць усё ж задае тон: гісторыя — фон, які адцяняе наш час і ілюструе цяперашняе разуменне святочнага. Калісьці падставамі для яго былі перамогі, у тым ліку і над часам, над сваімі слабасцямі. Але цяпер мы адзначаем перавагі: што маем у параўнанні з іншымі народамі ці тымі ж продкамі, якія жылі стагоддзі таму. Вось хоць бы ў Рагачове… Вершнікі збочылі: сімвалічнае шэсце выйшла на галоўную сцэну, дзе віталі сучасных герояў.

Прывітальны адрас Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь Аляксандра Лукашэнкі ўдзельнікам і гасцям урачыстасцей Дня беларускага пісьменства падчас урачыстай цырымоніі зачытала намеснік Прэм'ер-міністра краіны Наталля Качанава. «У год культуры яго правядзенне набывае асаблівае значэнне. Увага грамадства засяроджана на неабходнасці беражлівага захавання лепшых духоўных здабыткаў, якія дайшлі да нас праз стагоддзі, і ўзбагачэння нацыянальнай скарбніцы дасягненнямі нашых таленавітых сучаснікаў, бо гістарычная памяць і гонар служаць трывалым падмуркам для далейшага развіцця краіны», — сказана ў віншаванні.

Працяг тэмы на 3 — 5 стар.




Фота БелТА.

*Лаўрэаты Нацыянальнай літаратурнай прэміі прымаюць віншаванні.*

## Пункцірам

✔ Праспект Незалежнасці ў Мінску прэтэндуе на статус аб'екта Спіса сусветнай спадчыны ЮНЕСКА. Галоўная магістраль беларускай сталіцы будзе прадстаўлена ў агульнай намінацыі па тэме «Сацыялістычная пасляваенная архітэктура ў Цэнтральнай і Усходняй Еўропе». Размова ідзе пра архітэктуру, якая была створана пасля вайны ў стылі так званага сталінскага ампіру.

✔ Пад старшынствам намесніка Прэм'ер-міністра Рэспублікі Беларусь Наталлі Качанавай адбылося пасяджэнне пастаянна дзеючага арганізацыйнага камітэта кінафестывалю «Лістапад». XXIII Мінскі міжнародны кінафестываль пройдзе ў беларускай сталіцы з 4 па 11 лістапада. Дэвіз форуму — «Насустрач натхненню». Ужо атрымана каля 600 заявак для ўдзелу.

✔ Археалагічны музей «Бярэсце» плануецца рэстаўрыраваць да тысячагоддзя горада, якое Брэст адзначыць у 2019 годзе. Капітальны рамонт аб'екта прадугледжаны спецыяльным распараджэннем Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь Аляксандра Лукашэнкі «Аб падрыхтоўцы да святкавання 1000-годдзя г. Брэста». Паралельна з будаўніцтвам будзе ствараецца новая экспазіцыя.

✔ Нацыянальны стэнд Беларусі прадстаўлены на XXIX Маскоўскай міжнароднай кніжнай выстаўцы-кірмашы. Паводле кіраўніка беларускай афіцыйнай дэлегацыі, дырэктара — галоўнага рэдактара Выдавецкага дома «Звязда» Аляксандра Карлюкевіча, сёлета выдавецтвамі Беларусі будзе выпушчана каля 11 тысяч найменняў кніг. Лепшыя з іх можна бачыць у беларускай экспазіцыі. У кірмашы ўдзельнічаюць усе айчынныя дзяржаўныя выдавецтвы і шэраг недзяржаўных.

✔ Заўтра Нацыянальны мастацкі музей Беларусі запрасіць мінчан і гасцей горада да ўдзелу ў традыцыйнай акцыі «Вераснёвая ноч у Мастацкім». Сёлетняя праграма будзе разнастайнай і насычанай. Абавязковая музычная пляцоўка ў дэкарацыях манументальных калон пры ўваходзе ў музей — своеасаблівая візітная картка свята.

✔ Беларускі дзяржаўны тэатр лялек з 16 па 20 верасня выступіць з гастролямі ў Екацярынбургу (Расія), куды калектыў выправіцца для ўдзелу ў VIII Міжнародным фестывалі тэатраў лялек «Пятрушка Вялікі». На прэстыжным форуме мінская лялечнікі прадставяць сучасную прытчу "Чаму старэюць людзі?..", напісаную Анатолем Вярцінскім на аснове беларускіх народных казак. Новы, 79-ы, сезон тэатр лялек адкрые 10 верасня любімай казкай усіх дзяцей «Чырвоны Капялюшык».

✔ У 15-ы раз збярэ выканаўцаў з Беларусі і гасцей з іншых краін штогадовы Рэспубліканскі конкурс эстрадных выканаўцаў «Белазаўскі акорд», які адбудзецца ў кастрычніку ў Жодзіне. Паводле арганізатараў, мэта конкурсу — развіццё нацыянальнага мастацтва: у рэпертуары кожнага ўдзельніка будзе песня на беларускай мове. А хуткім часам пачнуцца рэпетыцыі фіналістаў з Прэзідэнцкім аркестрам Рэспублікі Беларусь пад кіраўніцтвам Віктара Бабарыкіна.

✔ Выстаўка кніг «Беларусь-Латвія: дыялог дзвюх культур» адкрылася ў Цэнтральнай навуковай бібліятэцы імя Якуба Коласа Нацыянальнай акадэміі навук Беларусі. У экспазіцыю ўвайшло каля 60 выданняў па гісторыі, культуры, этнаграфіі, архітэктуры, археалогіі, якія перададзены ў падарунак ад адной з найстарэйшых у Еўропе кніжніц — Акадэмічнай бібліятэкі Латвійскага ўніверсітэта.

# Адкрыццё беларускай прасторы — 110 гадоў таму

Першага верасня ў першай беларускамоўнай газеце з'явілася першая публікацыя Якуба Коласа — верш «Наш родны край». Такім чынам, афіцыйны пачатак творчай дзейнасці народнага паэта супадае з пачаткам беларускамоўнага друку, гісторыя якога налічвае 110 гадоў. З нагоды значнай даты Дзяржаўны літаратурна-мемарыяльны музей Якуба Коласа сустракаў гасцей — сваіх даўніх сяброў: паэтаў, пісьменнікаў, артыстаў, навукоўцаў.

Супольная размова ў першую чаргу тычылася творчасці Якуба Коласа — дарэчы, менавіта гэты псеўданім Канстанцін Міцкевіч выкарыстаў для першай публікацыі. Псеўданім мае наступную гісторыю: у 1900-я гады малады настаўнік захапляўся творчасцю расійскага паэта-рэвалюцыянера Пятра Якубовіча-Мельшына і асабліва ўпадабаў верш «Колас». Ад прозвішча паэта і назвы гэтага верша ўтварыўся галоўны псеўданім пісьменніка.

Для многіх сучасных творцаў імя Якуба Коласа было вызначальным на пэўным этапе жыцця. Напрыклад, паэт і журналіст Навум Гальпяровіч абараніў курсавую, прысвечаную педагагічнай дзейнасці пісьменніка. Актрыса Галіна Дзягілева адкрыла для сябе прастору беларускага свету падчас працы ў Нацыянальным акадэмічным драматычным тэатры імя Якуба Коласа, дзе ставіўся спектакль паводле паэмы «Сымон-музыка».

Што набылі і што страцілі беларусы цягам 110 гадоў сваёй гісторыі, занатаванай беларускай мовай на тысячах старонак перыядычных выданняў? Паразважаць пра гэта можна было, аглядаючы экспазіцыю, прысвечаную юбілею творчай дзейнасці Якуба Коласа. Побач з першым нумарам «Нашай долі» — ліст паэта да супрацоўнікаў рэдакцыі, побач з невялічкімі зборнікамі мастацкіх твораў, друкаваных кірыліцай і лацініцай, — паштоўкі з выявамі Вільні пачатку мінулага стагоддзя — горада, дзе ўсё пачыналася...




Фота Кастуся Дробава.

Экспанаты часовай музейнай экспазіцыі.

**Алеся ЛАПІЦКАЯ**

# Нацыянальны строй як уваходны квіток

## Традыцыйнае вяселле прадставяць на фолк-фэсце «Камяніца»

Пару, якая будзе прымаць удзел у абрадзе, беларусы абралі галасаваннем праз сацыяльныя сеткі яшчэ напярэдадні фэсту, што пройдзе ўжо 10 верасня ў Беларускім дзяржаўным музеі архітэктуры і побыту, у вёсцы Азярцо. Міжнародны фолк-фэст «Камяніца» — той фестываль, дзе людзям прапануюць на свае вочы ўбачыць, як этнаграфія можа спалучацца з паўсядзённым жыццём беларусаў. У суботу на пляцоўцы музея збяруцца не толькі вядомыя беларускія выканаўцы, але і замежныя. Хэдлайнерамі фэсту стануць этна-трыа «Троіца» (Беларусь) і Іна Жаланная (Расія).

Але «Камяніца» — гэта не толькі канцэрты з любімымі выканаўцамі. Гэта забавы, танцы і магчымасць набыць сабе хэнд-мэйд-упрыгожванні ад розных майстроў — усё дзеля таго, каб гледачы маглі дакрануцца да традыцыйнай культуры ў розных яе праявах. Часу на ўсё павінна хапіць: фэст распачнецца а 13 гадзіне і працягнецца да 22 гадзін. Фолк-фэст «Камяніца» плануе паказаць гледачам, што элементы традыцыйнай культуры можна выкарыстоўваць і ў працы з дзецьмі. Арганізатары прапаноўваюць насычаную праграму для самых маленькіх ад Сямейнага цэнтра Кацярыны Каўровай.

Аматараў актыўных забаў чакаюць лучна-арбалетны цір і барацьба на паясах, катанне на конях і поні, народныя танцы і бойкі на надзіманых мячах. Аматары рамёстваў змогуць паспрабаваць сябе ў кавальнай і ганчарнай справе, навучыцца ткаць паясы і зрабіць нешта з аплікацыі і фларыстыкі.

Прыхільнікі візуальных мастацтваў чакаюць выстаўкі жывапісу ад Ганны Сілівончык, Васіля Пешкуна, Алеся Пушкіна. Фатограф Віктар Малышчыц прадставіць выстаўку здымкаў зорнага неба з розных куткоў Беларусі. Яго калега Аляксандр Жданові ч — выстаўку лепшых фатаграфій за ўсе гады фестывалю «Камяніца».

Дашкольнікі і гледачы ў поўных нацыянальных строях (ад абутку да галаўнога ўбору) на фэст трапяць бясплатна.

**Вікторыя ЧАПЛЕВА**

# Ад удзячных нашчадкаў

**На конкурс драматургаў «Францыск Скарына і сучаснасць» прадстаўлена 31 п'еса.**

Рэспубліканскі тэатр беларускай драматургіі сумесна з Нацыянальнай бібліятэкай Беларусі і Беларусбанкам праводзяць конкурс па стварэнні твораў для драматычнага тэатра «Францыск Скарына і сучаснасць», які прысвечаны 525-годдзю з дня нараджэння беларускага першадрукара і асветніка, а таксама 500-годдзю беларускага кнігадрукавання.

Прыём п'ес прайшоў з 1 мая па 31 жніўня. За гэты час драматургі прадставілі 31 працу ў пяці намінацыях: «Гістарычная п'еса», «Сучасная п'еса», «П'еса па матывах», «Інсцэніроўка», «Сцэнічная ідэя». Сярод прац ёсць арыгінальныя п'есы, пераапрацоўка твораў класічнай літаратуры пра Скарыну і ідэі, якія патрабуюць сумеснай дапрацоўкі з тэатрам. Аўтары маглі карыстацца неабходнымі сведкамі з Нацыянальнай бібліятэкі. Па патрабаваннях арганізатараў, у конкурсе ўдзельнічаюць творы, якія дагэтуль нідзе не былі пастаўлены ці апублікаваны.

Журы ўжо пачало знаёміцца з конкурснымі працамі. Усе п'есы будуць апублікаваны ў зборніку. Плануецца, што лепшыя з іх паставяць у тэатрах РТБД, перакладуць на іншыя мовы і ў далейшым прадставяць у гарадах, дзе працаваў Францыск Скарына. Таксама пераможцаў чакаюць грашовыя ўзнагароды: агульны прызавы фонд складае 260 мільёнаў рублёў.

Галоўная мэта конкурсу — узбагачэнне рэпертуару беларускага тэатра. Таксама гэтае спаборніцтва развівае самасвядомасць беларусаў, спрыяе лепшаму разуменню культуры краіны і дазваляе па-новаму паглядзець на вялікага асветніка.

**Юлія РУДЗЕНКА**

### Мінскае гарадское аддзяленне СПБ запрашае:

**13 верасня** — *у літаратурную студыю «Слова» пры публічнай бібліятэцы № 3 (вул. Сяліцкага, 103). Кіраўнік — паэтэса Ганна Кашуба. Пачатак а 15-й гадзіне.*

**13 верасня** — *у літаратурны клуб «Слова пісьменніка» пры публічнай бібліятэцы № 5 (вул. Казлова, 2) на прэзентацыю кнігі Наталіі Касцючэнка «Время жатвы и время покаяния». Пачатак у 17.30.*

**14 верасня** — *на літаратурнае свята з удзелам групы пісьменнікаў, якое пройдзе ў Беларускай дзяржаўнай акадэміі авіяцыі (вул. Убарэвіча, 77). Пачатак а 15-й гадзіне.*

**15 верасня** — *у літаратурную гасцёўню «Аўтограф» (вул. Карбышава, 42) на творчую сустрэчу з пісьменніцай Янай Явіч. Пачатак а 19-й гадзіне.*

**15 верасня** — *на свята маладой паэзіі, якое пройдзе ў Паэтычным дворыку (В. Харужай, д. 16, ЦМГБ імя Я. Купалы) з удзелам групы паэтаў — лаўрэатаў гарадскіх, рэспубліканскіх і міжнародных конкурсаў. Пачатак а 14-й гадзіне.*

**16 верасня** — *у Школу юнага паэта пры Мінскім гарадскім аддзяленні СПБ (вул. Фрунзэ, 5-309). Кіраўнік — Міхась Пазнякоў. Пачатак а 15-й гадзіне.*

### Віцебскае абласное аддзяленне СПБ запрашае:

**15 верасня** — *на сустрэчу з Уладзімірам Крайнёвым «Творчыя перакрыжаванні» ў віцебскай бібліятэцы імя Я. Маўра (Маскоўскі праспект, д.11, к. 1). Пачатак а 14-й гадзіне.*

**16 верасня** — *на сустрэчу «Жыццё люблю, ім не магу напіцца» з Кацярынай Сосна і народным літаратурна-музычным аб'яднаннем «Світанак» у Шаркаўшчынскай раённай бібліятэцы (вул. Энгельса, 2). Пачатак а 11-й гадзіне.*

### Гродзенскае абласное аддзяленне СПБ запрашае:

**17 верасня** — *на свята паэзіі «Ода любімаму гораду» з удзелам гродзенскіх творцаў, прымеркаванае да 888-годдзя горада Гродна, якое адбудзецца ў межах Дня горада, па адрасе: г. Гродна, вул. Замкавая, 16, Музей гісторыі рэлігіі (унутраны двор). Пачатак а 14 гадзіне.*

Пачатак на 1 стар.

# На харугвах гісторыі

Гістарычную памяць у горадзе пастараліся пазначыць: ужо на падыходзе да рагачоўскага музея адразу кідалася ў вочы экспазіцыя з ручнікоў, а потым палоскі з гэткімі ж арнаментамі прыцягвалі ў афармленні сцэны на галоўнай плошчы: мясцовы каларыт захоўвалі пакаленнямі, таксама як і майстэрства ствараць адметнае.

Старшыня Гомельскага аблвыканкама Уладзімір Дворнік выказаў упэўненасць, што свята беларускага пісьменства дапаможа прыцягнуць увагу нашых жыхароў, асабліва моладзі, да нацыянальнай культуры, заахвоціць звярнуцца да твораў класікаў і сучасных пісьменнікаў. Гомельская зямля багатая на таленты. Тут нарадзіліся чатыры народныя пісьменнікі Беларусі: Андрэй Макаёнак, Іван Навуменка, Іван Мележ, Іван Шамякін.

Ды Уладзімір Караткевіч цяпер як жыхар горада: на сцяне аднаго з дамоў у Рагачове з'явіліся графіці з выявай пісьменніка, які натхняе ўсмешкай на ўвесь дзень. Жыў і ствараў у Рагачове, а гэта не адлюстравана ў назвах вуліц, дарэчы, як і памяць пра іншых выдатных асоб, якіх даў Беларусі гэты горад, на што звярнулі ўвагу дасціпныя гісторыкі і літаратуразнаўцы. Ці не для гэтага свята, каб разумець: ёсць што рабіць далей у гонар нашага прыгожага пісьменства. Тым больш, што:

— Дзень беларускага пісьменства — гэта магчымасць дзяржавы выказаць удзячнасць пісьменнікам, вучоным, літаратарам і ўсім, хто мае дачыненне да гэтага працэсу, за захаванне роднага слова. Гэта тое свята, якое пакідае пасля сябе не толькі духоўны след, але і матэрыяльныя каштоўнасці, — адзначыла міністр інфармацыі краіны Лілія Ананіч.




*Фота Сяргея Нікановіча.*

*Мікалай Чаргінец на адкрыцці Дома кнігі ў Рагачове.*

На каштоўнасці раён багаты, мае больш за 70 помнікаў гісторыі і культуры. А падчас свята збіралі яшчэ адну скарбонку — з кнігамі, якія госці падаравалі гораду. Часта адносіны з кнігамі складваюцца як з людзьмі: некаторых выбіраеш назаўсёды і невыпадкова. Амаль за дзве гадзіны канцэрта сабралася паліца з выданнямі: тут і «Беларусь замкавая», і кніга пра Полацк, і «Летапіс Гомельскай вобласці», і кніга кніг Біблія… Захоўвацца скарб будзе ў новым Доме кнігі, які ўрачыста адкрылі ў Дзень пісьменства.

Гістарычны будынак (у ім на пачатку ХХ стагоддзя была земская ўправа) адрамантавалі, памяшканні падзялілі згодна з лагістыкай. Цяпер акрамя Рагачоўскай цэнтральнай раённай бібліятэкі тут на першым паверсе месціцца і кнігарня «Першацвет», адкрыццё якой ініцыявана Міністэрствам інфармацыі краіны. Так было гістарычна, што першыя публічныя бібліятэкі з'яўляліся пры кнігарнях, пацвердзіў дырэктар Нацыянальнай бібліятэкі Беларусі Раман Матульскі. Ён выказаў упэўненасць, што ядро кожнай бібліятэкі нашай краіны павінны складаць кнігі Францыска Скарыны і перадаў у дар рагачоўскай кніжніцы шматтомнае выданне пра спадчыну беларускага першадрукара.

— Дзідро ў свой час гаварыў: «Чалавек, які перастае чытаць, перастае мысліць», — зазначыў старшыня Саюза пісьменнікаў Беларусі Мікалай Чаргінец. — А каб не перастаць мысліць, трэба чытаць, тым больш што за апошнія гады беларускія пісьменнікі стварылі мноства кніг для дзяцей і дарослых. Адкрыццё Дома кнігі ў Рагачове ўвасабляе жаданне жыхароў горада і раёна развіваць і ўдасканальваць веды.

Людзі цярпліва чакалі, калі можна будзе зайсці ў памяшканне. Сустракалі іх як наведвальнікаў важнага палаца: па мастку трэба было спусціцца да ўваходу, ля якога стаялі вартаўнікі ў яркіх ліўрэях, нібыта з ХІХ стагоддзя. Аднак напаўненне кнігарні абсалютна сучаснае, кнігі на розны густ і ўзрост. І не прабіцца тут у гэты дзень — ідуць на водар свежааддрукаваных кніжных старонак.

Шапікі са стравамі, што размясціліся адзін за адным, адчулі ў Рагачове канкурэнцыю, таму завабівалі вельмі актыўна не толькі пахамі, але і папулярнымі песнямі. Госці дзівіліся: нават піва на вуліцы не знойдзеш (святкуем культурна!). Затое спакойна праходжваліся сем'і з дзеткамі. «Пакажыце, што набылі?» — разглядвала маладая мама ў вечаровай сукенцы пры сустрэчы з другой такой жа дзівай яркія кнігі ў кішэні каляскі з немаўлём. — «Няхай тэлепатычна, праз сон перадаецца казка…» Пасмяяліся, усё ж сучасныя кабеты, але з памяццю пра добрую традыцыю, якую, відаць, засвоілі ад сваіх матуль: выхоўваць дзяцей на кнігах.

Горад ператварыўся ў шматколернае палатно, у якім яркімі фарбамі былі магчымасці паразмаўляць з людзьмі, якіх ведаеш па кнігах, ці з тымі, што прыехалі за тысячы кіламетраў на сваю гістарычную радзіму, з якой захоўваецца нябачная сувязь. Сёлета на свяце ў Рагачове ўпершыню ў гісторыі прысутнічалі прадстаўнікі дыяспар амаль з 20 краін свету. Гэта ім трэба… І ўпершыню тэлетрансляцыю Дня беларускага пісьменства маглі паглядзець не толькі жыхары Беларусі, але і тысячы гасцей з далёкага і блізкага замежжа.

**Яна ЯВІЧ,**
**Ларыса ЦІМОШЫК**

**Працяг тэмы на 3 — 5 стар.**

## Аб прэміях Федэрацыі прафсаюзаў Беларусі 2017 года ў галіне літаратуры, мастацтва, журналістыкі і аматарскай творчасці

З 1989 года, раз у два гады, да Свята працы — 1 Мая, прысуджаюцца прэміі Федэрацыі прафсаюзаў Беларусі. За гэты час лаўрэатамі сталі 4 прафесійныя і 23 аматарскія калектывы мастацкай творчасці, 170 дзеячаў культуры, мастацтва, журналістаў.

26 жніўня 2016 г. прынята рашэнне аб умовах прысуджэння прэмій 2017 года. Іх будзе:

а) пяць прэмій у галіне літаратуры і мастацтва, у тым ліку:
- **за творы прозы, паэзіі і драматургіі** — адна прэмія;
- **за музычныя творы, канцэртна-выканальніцкую дзейнасць** — адна прэмія;
- **за работы ў галіне тэатральнага мастацтва і кінамастацтва** — адна прэмія;
- **за творы жывапісу, скульптуры, графікі і прыкладнога мастацтва** — адна прэмія;
- **за лепшы твор аб прафсаюзах** (літаратурны, музычны, канцэртны, тэатральны, кінамастацкі, жывапісны, скульптурны і іншы) — адна прэмія;

б) адна прэмія **за актыўную работу па развіцці народнага мастацтва і аматарскай творчасці працоўных** (сярод кіраўнікоў прадпрыемстваў і арганізацый, прафсаюзных і ведамасных устаноў культуры, старшынь прафсаюзных арганізацый);

в) адна прэмія **за выдатныя дасягненні аматарскіх калектываў мастацкай творчасці**;

г) адна прэмія **ў галіне журналістыкі**.

На саісканне прэміі ФПБ прымаюцца творы і работы апублікаваныя, публічна паказаныя ці выкананыя за апошнія чатыры гады, але не пазней чым за 6 месяцаў да ўстаноўленага тэрміну вылучэння на саісканне прэміі. Не могуць быць прадстаўлены работы, якія адначасова вылучаны на атрыманне Дзяржаўнай прэміі Рэспублікі Беларусь, міжнародных прэмій ці прэмій іншых дзяржаў, або якія ўжо атрымалі такія прэміі.

Колькасць саіскальнікаў на атрыманне прэміі ФПБ у складзе калектыву аўтараў не павінна перавышаць 4 чалавекі.

Вылучэнне работ і твораў на саісканне прэміі ФПБ праводзіцца на сходах працоўных калектываў прадпрыемстваў, арганізацый і ўстаноў, пасяджэннях прэзідыумаў раённых, абласных і рэспубліканскіх камітэтаў і аб'яднанняў прафсаюзаў, калегій, прэзідыумаў і сакратарыятаў праўленняў органаў культуры, творчых саюзаў, міністэрстваў і ведамстваў Рэспублікі Беларусь.

Пры гэтым улічваецца абавязковае членства ў прафсаюзе кандыдата і яго ўдзел у рабоце прафсаюзнай арганізацыі, выбарных органаў прафсаюзаў і мерапрыемствах, якія праводзяцца прафсаюзамі, і да т.п.

Памер прэміі Федэрацыі прафсаюзаў Беларусі 2017 года будзе ўстаноўлены пры прыняцці рашэння аб іх прысуджэнні ў красавіку 2017 г.

Дакументы і матэрыялы для вылучэння работ і твораў на саісканне прэміі ФПБ прымаюцца да **1 снежня 2016 г**. Камісіяй па прэміях Федэрацыі прафсаюзаў (220126, г. Мінск, пр-т Пераможцаў, 21, пакой 915).

*Тэлефон для даведак: 203-95-83.*

**Намеснік старшыні Камісіі па прэміях ФПБ у галіне літаратуры, мастацтва, журналістыкі і аматарскай творчасці А. М. Суша**

## Дайджэст

• Імя сёлетняга лаўрэата Нобелеўскай прэміі па літаратуры будзе абвешчанае 6 кастрычніка. З гэтае нагоды букмекеры пачалі прымаць стаўкі. Лідзіруе папулярны японскі пісьменнік Харукі Муракамі, які знаходзіцца ў букмекераў на першых пазіцыях ужо не першы год. На другім месцы — сірыйскі паэт Адоніс. Адметна, што ў новым стагоддзі Нобелеўскую прэмію атрымаў толькі адзін паэт — швед Томас Транструмер. Трэцяе месца ў букмекераўскім рэйтынгу заняў Філіп Рот, чацвёртае — Джойс Кэрал Оўтс (абое — амерыканцы). Таксама ў дзясятку патрапілі кенійскі раманіст Нгугі ва Тхіёнга, албанец Ісмаіл Кадарэ, нарвежац Юн Фосэ, ізраільцянін Амас Оз, венгр Петэр Надаш. З нашых «суседзяў» у спісе магчымых лаўрэатаў — палякі Адам Загаеўскі і Вольга Такарчук, эстонцы Яаан Каплінскі і Дорыс Карэва. Расійскіх, украінскіх і беларускіх аўтараў у якасці магчымых пераможцаў букмекеры не разглядаюць.

• Дакументальны фільм пра беларускі фальклор «Песні старой Еўропы — старажытныя Беларускія народныя песні» стаў пераможцам на міжнародным фестывалі *Creation International Film Festival (CIFF)*. Рэжысёр і прадзюсар стужкі — мінчанка Воля Дземка, якая ўжо некалькі гадоў жыве ў ЗША. Частку сродкаў на стварэнне фільма яна сабрала праз краўдфандынг, а каб завяршыць фільм, патраціла свае зберажэнні і ўзяла крэдыт у банку. «Песні старой Еўропы — старажытныя Беларускія народныя песні» — першая работа пра фальклор Беларусі, створаная на тэрыторыі ЗША і адмыслова для англамоўных гледачоў. Трэйлер фільма дасяжны ў сецыве.

• Улады Італіі паклапаціліся пра тое, каб моладзь спрычынялася да культурнага жыцця краіны. Цяпер кожны малады італьянец, дасягнуўшы васямнаццаці гадоў, атрымае цягам года 500 еўра. Пералічваць грошы будуць на адмысловую картку, таму патраціць іх будзе магчыма толькі на кнігі, квіткі ў тэатры і кіно, выстаўкі, музеі і іншыя падобныя мерапрыемствы. Праект распачнецца з наступнага года і ахопіць, па папярэдніх падліках, каля 600 тысяч італьянцаў.

• Археолагі знайшлі фактычнае пацвярджэнне таму, што ў Карэі ўпершыню выкарысталі наборны шрыфт з металу для стварэння кніг. Непадалёк ад каралеўскага палаца ў горадзе Кэсан (Паўночная Карэя), які з X па XIV стагоддзе быў сталіцай дзяржавы, знайшлі некалькі літар з бронзы. Такім чынам, карэйцы, трэба думаць, апярэдзілі еўрапейцаў у кнігадрукаванні на тры стагоддзі. Улады КНДР збіраюцца размясціць рарытэты ў Гістарычным музеі, у сталіцы рэспублікі.

• Віртуальная выстаўка, прысвечаная Генадзю Бураўкіну, адкрылася на сайце Беларускага дзяржаўнага архіва-музея літаратуры і мастацтва. Прымеркаваная яна да 80-годдзя паэта і мае назву «Перапоўнены прагай жыцця». Дакументы з асабістага архіва Бураўкіна перадала сёлета ў БДАМЛіМ удава паэта: вялікая колькасць здымкаў, аўтографы і машынапісы, эпісталярная спадчына, біяграфічныя дакументы. У выстаўку ўвайшлі адсканаваныя фота Генадзя Бураўкіна, аўтографы яго вершаў, асабістыя дакументы.

• Паэтычны аўтобус з'явіўся ў Гомелі. Ён ідзе па маршруце № 20, адным з самых працяглых у горадзе: ад мікраёна Старая Валатава паўз вакзал да Медгарадка. На левым баку аўтобуса размешчаныя партрэты Янкі Купалы і Якуба Коласа, на правым — згадкі пра Дзень беларускага пісьменства, які сёлета прайшоў у Рагачове. У самім салоне замацаваныя расцяжкі з партрэтамі і імёнамі беларускіх пісьменнікаў: Максім Багдановіч, Якуб Колас, Уладзімір Караткевіч, Ніл Гілевіч, Максім Танк, Анатоль Грачанікаў. Пасля абвяшчэння прыпынкаў тут гучаць вершы, прысвечаныя Беларусі. Праект «Паэтычны аўтобус» распрацавалі сумесна ААТ «Гомельаблаўтатранс» і Гомельская абласная ўніверсальная бібліятэка. Кандуктары і кіроўцы, якія працуюць у «паэтычным» аўтобусе, адзначаюць, што беларуская паэзія ўлагоджвае людзей і што ніякіх нараканняў на такую акцыю не было.

# Чалавек-насуперак

## Скарына як прыклад для сучасных творцаў

**Жыў — ведаем па датах нараджэння і смерці. А такое адчуванне, што яго жыццё доўжыцца некалькі стагоддзяў. Не здолеў час зацерушыць пылам забыцця: яркае праглядае і ў змору, і сярод больш яркага бляску сучаснасці прыцягвае высакароднасцю і незвычайнасцю таго, як зроблена.**
**Вядома, ён жа вялікі. Але як чалавек адчуваў сваю чалавечую недасканаласць. Ці не таму, усвядоміўшы ахвяру дасканалага (дзеля іншых), упарта і цярпліва імкнуўся несці ўласны крыж, каб навучыць людзей жыць не хлебам адзіным.**
**Не баяўся застацца без кавалка хлеба, быў незразумелы сучаснікам, чуў адмовы, але не адмаўляўся сам ад абранай справы і нават удалечыні ад радзімы ўсё адно працаваў дзеля яе… Ёсць пра што падумаць сучасным творцам.**
**Яны думалі і разважалі пра прыклад Францыска Скарыны падчас круглага стала «Сугучча: слова Скарыны ў сучасным свеце» ў Нацыянальнай бібліятэцы Беларусі.**


*Фота Кастуся Дробава.*

Падчас пасяджэння круглага стала.

Разам з беларускімі літаратарамі, прадстаўнікамі выдавецтваў у ім узялі ўдзел калегі і партнёры з Расіі, Сербіі, Славакіі, Літвы, Латвіі, Вялікабрытаніі, Казахстана, Таджыкістана і іншых краін. Напярэдадні Дня беларускага пісьменства такая размова павінна была стаць нібыта прадмовай да свята, што ў традыцыі Скарыны, які, тыражуючы, па сутнасці, вядомыя словы, імкнуўся шукаць адказ на пытанне: што адбываецца з чалавекам, яго сучаснікам?

У наш час тыражуюць і самога Скарыну: яму прысвячаюцца асобныя выданні, гэтая праца набывае асаблівую актуальнасць у чаканні 500-годдзя беларускага кнігадрукавання. Гэта падкрэсліла **міністр інфармацыі Беларусі Лілія Ананіч:**

— У нашай краіне вядзецца вялікая падрыхтоўчая работа да гэтага знакавага юбілею, ужо сёлета праводзіцца шмат тэматычных мерапрыемстваў, распрацоўваецца план на будучыню. Вядома, у першую чаргу да святкавання далучаецца галіна кнігавыдання: будзе падрыхтаваны шэраг праектаў і выдадзена шмат кніг, прысвечаных спадчыне Францыска Скарыны. Адну з іх — «Францыск Скарына на мовах народаў свету» — мы палічылі важным перавыдаць напярэдадні Дня пісьменства, каб засведчыць, што спадчына нашага першадрукара агульная для ўсяго чалавецтва. Нам трэба рабіць гістарычнае мінулае актуальным, каб новыя пакаленні трывала стаялі на гуманістычных прынцыпах, якія сцвярджаў у тым ліку і Францыск Скарына.

У Беларусі ў наш час актыўна працуюць нашчадкі Скарыны, а падтрымка кнігавыдання — адна з задач, якая ажыццяўляецца ў межах дзяржаўнай палітыкі. Дзеля гэтага краіна ладзіць Мінскую міжнародную кніжную выстаўку-кірмаш, запрашае да дыялогу пісьменнікаў розных краін на Міжнародным сімпозіуме літаратараў. Дзеля таго, каб працягвалася традыцыя літаратурнай творчасці, на дзяржаўным узроўні аказваецца падтрымка таленавітай моладзі (сёлета заснаваны адмысловы конкурс для маладых літаратараў «Першацвет»). Знаёміцца з творамі сучасных пісьменнікаў прапаноўваюць літаратурныя перыядычныя выданні. Фонды бібліятэк таксама папаўняюцца класічнай і сучаснай нацыянальнай літаратурай. Выдавецкая справа, якую пачаў Скарына, жыве ў нашай краіне.

Але «Імя Францыска Скарыны з'яўляецца знакавым не толькі для беларусаў, але і для іншых народаў», — адзначыў **старшыня Саюза пісьменнікаў Беларусі Мікалай Чаргінец** і звярнуў увагу на тое, што яго кнігі прыходзілі да нашай роднай мове, што дарагога вартае. Скарына меў прадпрымальніцкую жылку, тым не менш вялікіх грошай не зарабіў, але збіраў капітал іншага гатунку, папрацаваўшы на імідж свайго народа.

— Калі б Скарына не пазначыў, што аўтар тэкстаў паходзіць з горада Полацка, то мы ўсё адно нават па некалькіх радках маглі б вызначыць, што гэта пісаў беларус, — заўважыў **Алесь Бадак, пісьменнік, дырэктар выдавецтва «Мастацкая літаратура».** — А ведаеце, у чым унікальнасць беларускай літаратуры? Тут няма кніг бульварнага кшталту. Такі менталітэт: калі мы пачынаем пісаць прыгодніцкую літаратуру ці дэтэктывы, з'яўляецца Караткевіч; пішам гераіка-патрыятычную літаратуру — з'яўляецца Быкаў. Усё ідзе ад Скарыны. Яго слова актуальнае сёння, можа быць, як ніколі. Пяць стагоддзяў таму людзі не мелі сродкаў для такой лёгкай, як сучасная, камунікацыі, таму з'яўленне беларускага кнігадрукавання было велізарным крокам наперад. Сёння нам важна ўспамінаць гэта і вучыцца ў вялікіх папярэднікаў, таму што кніга страчвае святасць, якую мела ў той час.

Гэтую думку развіў **Юрый Казлоў, празаік, галоўны рэдактар часопіса (Масква):**

— У скарынаўскай асветніцкай дзейнасці былі дзве галоўныя ідэі — сцвярджэнне высокіх хрысціянскіх ідэалаў і барацьба за кнігу і культуру. На жаль, у сучасным свеце шмат якія народы адмаўляюцца ад хрысціянскіх традыцый, таксама як і ад чытання кніг. Таму тое, за што змагаўся Скарына, зноў становіцца актуальнай праблемай чалавецтва. Расце новае пакаленне людзей, якія прынцыпова не разумеюць каштоўнасці кнігі, і крыніцай асалоды для іх становяцца матэрыяльныя выгоды. Але мне здаецца, што ў кнігі ёсць шанец выжыць у сучасным глабалізаваным свеце: альтэрнатыву можа прапанаваць нацыянальная дзяржава, якая клапоціцца пра свае культурныя ідэалы.

Наколькі дзяржава нацыянальна арыентаваная, можна меркаваць па тым, як яна ставіцца да кніжнай справы. На думку гасцей — удзельнікаў круглага стала, Беларусь можа быць прыкладам і таго, што краіна актыўна выкарыстоўвае сяброўскія сувязі з літаратарамі і выдаўцамі іншых краін, каб прасоўваць сваіх творцаў і папулярызаваць сваю культуру. Напрыклад, у **«Роман-газеце» ў першай палове 2017 года выйдзе** зборнік беларускай сучаснай прозы.

Беларусь стварае пляцоўкі для аб'яднання культур, падкрэсліў **пісьменнік Валерый Казакоў, які з'яўляецца намеснікам старшыні Федэральнай нацыянальна-культурнай аўтаноміі «Беларусы Расіі»:**

—… І не толькі таму, што тут жывуць памяркоўныя людзі, але і таму, што яна здолела самазахавацца як краіна. У нас засталося мала пляцовак, дзе можам вось так разам сустракацца…

— Каля двух мільёнаў этнічных беларусаў жывуць за мяжой, палова з іх — у англамоўных краінах, — падтрымаў размову **Марат Ахмеджанаў, дырэктар выдавецтва *Hertfordshire Press* у Вялікабрытаніі, арганізатар *Open Central Asia Book Forum&Literature Festival*.** — Праз выданне кніг беларускіх пісьменнікаў на англійскай мове мы можам не толькі прапагандаваць культуру Беларусі, але і аб'яднаць яе дзяцей вакол гістарычнай радзімы. На жаль, у кнігарнях Вялікабрытаніі мала кніг беларускіх аўтараў на англійскай мове, але мы плануем прыняць удзел у прасоўванні беларускай літаратуры для англамоўных чытачоў усяго свету. Спадзяёмся, што Беларусь возьме ўдзел у міжнароднай кніжнай выстаўцы ў Лондане ў 2017 годзе.

Госць з Расіі **Інэса Слюнькова, мастацтвазнаўца і гісторык архітэктуры, адзначыла, што** «наша літаратура спрыяе знаёмству з культурай іншых краін, яна запатрабавана як у Беларусі, так і ў Расіі».

Але найперш нашы кнігі патрэбны тым, хто жыве ў самой Беларусі, дзеля ўмацавання яе нацыянальнай культуры, пра гэта казалі **пісьменнікі Георгій Марчук і Навум Гальпяровіч.** Палачанін Навум Якаўлевіч думкамі ўжо ў наступным годзе. Відаць, справа не толькі ў тым, што Полацк зноў прыме свята. Гісторыя горада і яго Чалавека, што далі штуршок беларускай самаідэнтыфікацыі, яшчэ патрабуе асэнсавання: і як калыска беларускай дзяржаўнасці, і як крыніца культурнай плыні, якая абʼяднала розныя прасторы.

Яшчэ адно пацвярджэнне: **саветнік Пасольства Расіі ў Беларусі Вадзім Гусеў** паведаміў прысутным, што «наближаецца да завяршэння вырашэнне пытання аб перадачы арыгінальных выданняў Францыска Скарыны з Расійскай дзяржаўнай і Расійскай нацыянальнай бібліятэк для міжнароднай выстаўкі ў Беларусі» . У прадчуванні свята…

**Ларыса ЦІМОШЫК**

# Адчуць сябе першадрукаром

## прапанавалі з дапамогай адноўленага станка XVI стагоддзя

Хоць бы для сябе самога першы раз у жыцці зрабіць адбітак з тэкстам так, як гэта рабілі ў часы Францыска Скарыны… У Рагачове такая магчымасць была ў кожнага: асобным павільёнам стаў «Друкарскі двор XVI стагоддзя». Увесь працэс адноўлены нават ад стварэння паперы старажытным спосабам (з вадкай цэлюлозы). З гатовым аркушам можна пайсці да друкарскага станка і ўласнаручна зрабіць адбітак тэксту з Бібліі Скарыны. Асцярожна: свежая фарба павінна высахнуць, і, калі ласка, — сувенір на памяць. Не, усё ж не сувенір, а каштоўны набытак: праца не лёгкая. А так калісьці друкавалі кожны аркуш з кнігі. Да таго ж кнігі ўпрыгожваліся гравюрамі. Яшчэ адзін станок паказвае, як рабіліся афорты. Створаныя ў тыя часы кнігі каштавалі нятанна, але колькі ў іх укладзена часу і сіл! Зразумелі тыя, хто прайшоў увесь цыкл. «Друкарскі двор XVI стагоддзя» адноўлены з ініцыятывы Уладзіміра Ліхадзедава па гравюрах. Гэта адзіны друкарскі станок у Беларусі (ды і ў Еўропе іх не больш за 10). Інтэрактыў захапіў: увесь час ля павільёна стаяла чарга.


*Фота Сяргея Ніканoвіча.*

# Галоўная сцэна: творы і аўтары

**Усё пачыналася яшчэ напярэдадні — з класікі. Конкурс «Жывая класіка»: дзеці чытаюць — з пачуццём і гонарам — абраныя вершы. Дзеля таго, каб і далей абіраць для чытання тых, хто піша на роднай мове і пра іх, і гэта ўсё так натуральна, лагічна, зразумела і з душой. А потым праходзіць жыццё, прапаноўвае іншыя арыенціры. У дарослых з'яўляецца выбар, што чытаць, як і навошта.**




Фота БелТА.

Уладзімір Ліпскі звяртаецца да гасцей свята.

## СЛАВУТАСЦІ І ЗОРКІ

Нашы людзі чытаць не развучыліся. І пісьменнікаў ведаюць! Некаторым айчынным літаратарам трэба было прыехаць у Рагачоў, каб пачувацца зоркамі. Напрыклад, да Віктара Шніпа, які стаяў ля пісьменніцкага павільёна, падышла жанчына, па-святочнаму апранутая, у строі з беларускімі арнаментамі (пазнала ж!). Казала пра тое, што чытае і сочыць за творчасцю (ці не сучасныя сродкі камунікацыі дапамагаюць?). Нават глядзець на гэта збоку было прыемна. Ля адмысловай пляцоўкі, прадугледжанай для выступу літаратараў і сустрэч з чытачамі, увесь час збіраліся людзі. Нават дзеці слухалі: цікава распавядаў, як пачынаў, Міхась Чарняўскі. Выдатна, калі ёсць свая пляцоўка для слова. Але такой пляцоўкай стаў увесь горад. Таму што слову фактычна прысвечаны і павільён друкаваных выданняў. Нават не адзін: Выдавецкі дом «Звязда» прыцягваў свежымі нумарамі газет на роднай мове і літаратурных часопісаў — разбіралі. Асабліва прыемна, што разбіралі спецвыпуск газеты «Літаратура і мастацтва». Побач, у роўных умовах, прадстаўляліся выданні яшчэ адной дзяржаўнай выдавецкай структуры ў галіне СМІ, аб'яднанай на базе газеты «СБ. Беларусь сегодня». Здагадайцеся, каля якіх выданняў было больш наведвальнікаў?.. Ля стэнда перыёдыкі Гомельшчыны! Аргумент на карысць РОДНАГА ў эпоху глабалізацыі. Што дзівіцца, калі падчас урачыстага канцэрта самыя гарачыя апладысменты дасталіся рагачоўскім бабулькам?! Далі жару, выканаўшы родную — ад матулі — песню дзве сястры з вёскі Стоўпня. Надзея Адамаўна Швец — вельмі шаноўная артыстка, ёй 90! Прызнаецца, што столькі розных канцэртаў у яе за плячыма, а тут, у Рагачове, спяваць асабліва прыемна: для сваіх жа. Ева Адамаўна крыху маладзейшая, ёй усяго 70. Па вышыўках разумею: ёсць падвох. Прызнаюцца: на Рагачоўшчыну пераехалі з Жыткавіч (таму на саматканых кашулях і фартушках палеская вышыўка). Але ж адна зямля, родныя людзі, песні шчырыя ўсім патрэбны. Ды непакоіцца бабулькі, што моладзь з іх сям'і ўжо так не спявае, хіба што на святы, калі сям'я збіраецца разам.

Той самы каларыт, які прыцягвае да нас гасцей — пісьменнікаў іншых краін. Цікава было паназіраць за жыхарамі Рагачова, якія разглядалі кніжныя навінкі ў павільёне, а потым ішлі ў новы «Дом кнігі». А яшчэ была магчымасць тут жа з набытым экземплярам атрымаць аўтограф аўтара, напрыклад, Уладзіміра Мазго. Дзень пісьменства якраз дапамагае запальваць зорак з шэрагу літаратараў. А людзям трэба СВАЕ зоркі. Не дзіва, што зоркі эстрады і літаратары сышліся ў адным канцэрце.

## СЛОВЫ І ПЕСНІ

Сюрпрызам для гасцей свята стала літаратурна-музычная канцэртная праграма на галоўнай сцэне з удзелам сяброў Саюза пісьменнікаў Беларусі, дзе сваю творчасць прадставілі паэты з розных куткоў краіны.

«Мая зямля, зямелечка-зямліца, / Стаміўся я, дазволь мне прытуліцца / Да баравых зялёных тваіх скроняў, да ветлівых тваіх палёў далоняў…» — такімі радкамі прывітаў публіку пісьменнік і мастак Сяргей Давідовіч. Вобраз зямлі-калыскі праходзіць праз усю яго творчасць, не толькі літаратурную, але і мастацкую. Творца ўпэўнены: усе нашы поспехі і перамогі звязаны з роднай зямлёй. З маленства мы адчуваем пяшчоту нашай роднай маці — Беларусі, таму павінны адпаведна ставіцца да яе, прайсці разам праз усе выпрабаванні.

Вершамі пра Радзіму, восень, каханне, шчасце парадавалі публіку старшыня Гродзенскага абласнога аддзялення СПБ Людміла Кебіч і яе калегі па пяры: Аліна Сабуць, Дзмітрый Радзівончык, Святлана Тарасава і Пётр Сямінскі.

За альбом «Где калина цвела», што змяшчае песні, створаныя кампазітарам Алегам Елісеенкавым на вершы паэта Івана Юркіна ў выкананні эстраднага спевака Анатоля Ярмоленкі, гэтае творчае трыа ўганаравана прэміяй Саюзнай дзяржавы ў галіне літаратуры і мастацтва за 2015 — 2016 гады. На святочным канцэрце Анатоль Ярмоленка і Алег Елісеенкаў выканалі кампазіцыі з альбома. Дарэчы, у рэпертуары Анатоля Ярмоленкі ёсць песні на вершы не толькі сучасных паэтаў, але і класікаў беларускай паэзіі. А яшчэ — пра класікаў, як прыкладам, «Янка Купала».

Пачулі і кампазітара Эдуарда Ханка. Яго песні, напісаныя яшчэ за савецкім часам, у Беларусі ведаюць і любяць.

## СЯБРЫ І СПАДЗЯВАННІ

Гасцямі свята былі і паэты з Расіі — старшыня краснадарскага рэгіянальнага аддзялення Саюза пісьменнікаў Расіі Святлана Макарава, Леанід Север, які жыве на Растоўшчыне, і Вольга Сафронава з Таганрога.

— Хараство слова, спеўнасць, паэзія закладзены ў сэрцах нашых народаў на генным узроўні. З высокай паэзіі нараджаюцца высокія пачуцці, такія, як пачуццё любові да Радзімы. Вось ужо пяць гадоў мы разам з Гомельскім абласным аддзяленнем Саюза пісьменнікаў Беларусі працуем у межах міжнароднага літаратурнага праекта «Берагі дружбы». За гэты час пабачыў свет цэлы шэраг кніг перакладаў на рускай, беларускай і ўкраінскай мовах. Кожная старонка выпраменьвае любоў, дабрыню, дружбу, узаемаразуменне і стварэнне. Сёння ў праекце працуюць пісьменнікі Краснадарскага краю, Растоўскай, Курскай, Бранскай, Сумскай абласцей. Спадзёмся далучыць да сутворчасці як мага больш сяброў Саюза пісьменнікаў Беларусі, — распавяла Святлана Макарава.

«Я спадзяюся, што пракосаў новых / Жыццё яшчэ падорыць нам спаўна…» — гэта радкі з верша паэта-песенніка Кастуся Цыбульскага. Такім пазітыўным настроем, вераю ў лепшае прасякнута ўся яго творчасць.

…Вось і завяршыўся Дзень пісьменства, адгрымелі акорды рагачоўскага свята. А наперадзе… Наперадзе — новы дзень. Дзень пісьменства-2017. У Полацку.

**Яна ЯВІЧ**

## Нацыянальныя

**Намінанты на Нацыянальную літаратурную прэмію чакалі Дня беларускага пісьменства ў Рагачове з асаблівым хваляваннем. Гэта і зразумела: сам статус прэміі «абавязвае». Уручэнне ўзнагарод стала ключавой падзеяй свята. Лепшых з тых аўтараў, чые кнігі былі выдадзены летась, журы вызначала цягам паўгода. Разглядалася мноства намінантаў, ішлі абмеркаванні, спрэчкі… І вось нарэшце галоўная інтрыга раскрытая!**

✓ Намінацыя «Лепшы твор прозы». Пераможца — Алесь Марціновіч (зборнік гістарычных апавяданняў «Цяпло колішніх вогнішчаў»).

✓ Намінацыя «Лепшы твор паэзіі». Пераможца — Мар'ян Дукса (зборнік вершаў «Птушка вечнасці — душа»).

✓ Намінацыя «Лепшы твор для дзяцей і юнацтва». Пераможца — Сяргей Давідовіч (кнігі «Дзедава жалейка», «Баявая нічыя», «Залаты буліт»).

✓ Намінацыя «Лепшы твор драматургіі». Пераможца — Ягор Конеў (п'еса «Злачынства і пакаранне на берагах Свіслачы»).

✓ Намінацыя «Лепшы твор публіцыстыкі». Пераможца — Мікалай Барысенка (кніга «Рэха "Вялікай вайны" ва Усходняй Беларусі (1914 — 1918)») .

✓ Намінацыя «Лепшы твор літаратурнай крытыкі і літаратуразнаўства». Пераможца — Таццяна Мацюхіна (навуковае выданне «Беларускі імпрэсіянізм»).

✓ Намінацыя «Лепшы дэбют». Пераможца — Сяргей Клімковіч (чатырохтомнік прозы для дзяцей «Тайна кватэры № 8»).

Заснавальнікі Нацыянальнай літаратурнай прэміі — Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь, Міністэрства культуры Рэспублікі Беларусь, Міністэрства адукацыі Рэспублікі Беларусь і Саюз пісьменнікаў Беларусі. Раней пераможцам рэспубліканскага конкурсу на лепшы літаратурны твор года ўручаліся статуэткі «Залаты Купідон». Праект скіраваны на падтрымку развіцця айчыннай мастацкай літаратуры для дарослых, дзяцей і юнацтва, розных жанраў пісьменніцкай творчасці: паэзіі, прозы, драматургіі, публіцыстыкі, літаратурнай крытыкі і літаратуразнаўства, а таксама на папулярызацыю кніг і чытання ў грамадстве. Увогуле, Нацыянальная літаратурная прэмія атрымала шырокі рэзананс: узнагароды пісьменнікам уручаюць на галоўнай сцэне Дня беларускага пісьменства, імёны лепшых літаратараў краіны чуе вялікая аўдыторыя, якая вызначае для сябе, чые творы варта прачытаць.

**Усіх сёлетніх лаўрэатаў Нацыянальнай літаратурнай прэміі мы прадставім чытачам у найбліжэйшых нумарах.**



Фота Яўгена Пясецкага.

# Лепшыя ўспаміны



**Выдатна.** Чалавек — цэлы свет. Выказванне такое старое і неаспрэчнае, што сэнс яго зацёрся і самая думка ўспрымаецца як банальнасць. Падтрымліваць жыццядольнасць гэтае аксіёмы дазваляюць канкрэтныя прыклады — кшталту кароткіх **апавяданняў Навума Гальпяровіча**, якія можна пачытаць у жнівеньскім «Полымі». Лірычнасць аўтара, якую чытач мог адцаніць для сябе пасля шматлікіх паэтычных падборак у перыёдыцы, тут таксама дае пра сябе ведаць: ва ўвазе да дробязяў, у здольнасці адчуваць героя, у першаснасці пачуцця ў параўнанні з сюжэтам. Навум Гальпяровіч распавядае пра Ноту, героя з дзяцінства, які быў «мясцовым дурачком» і не ўспрымаўся ўсур'ёз, пакуль не раскрылася страшная таямніца яго хваробы. Пра былога зэка, што трымаў у страху суседзяў і нечакана выявіў здольнасць любіць, аддана і горача. Пра даўняга сябра і горыч першага кахання. Пра Сяргея Грахоўскага — тут гісторыя не столькі з шэрагу «нашыя вялікія», колькі ў пацвярджэнне рознабаковасці чалавека, думкі, што ў кожнага ёсць патаемнае дно і неабавязкова яно хавае бесаў. У кожным аповедзе прысутнічае аўтар як сузіральнік, а часам і як герой другога плана. Кніга такіх апаведаў стала б небанальным чытвом і дазволіла б усур'ёз звярнуць увагу на празаічны талент паэта Гальпяровіча.

Таксама раім звярнуць увагу на артыкул азербайджанскай даследчыцы **Ірады Мусаевай «Літаратура жанчыны вайны».** Яна разглядае кнігу Святланы Алексіевіч «У вайны не жаночае аблічча», трапна падбіраючы цытаты, робячы ненавязлівыя падсумаванні. Можна сцвярджаць, што спадарыня Ірада ўхапіла самую сутнасць работы Алексіевіч.

**Сумніўна**, што па прачытанні паэтычнай часткі нумара чытач будзе ўзрушаны ці здзіўлены. Зрэшты, вы можаце гэта аспрэчыць, пазнаёміўшыся з вершамі Дзмітрыя Пятровіча і Валерыя Максімовіча.

**На суд чытача**. Казімір Камейша працягвае друкаваць лірычныя мініяцюры з серыі «Паміж кубкам і вуснамі». У іх, як і ў прозе Навума Гальпяровіча, гісторыя чалавека, якую можна разгарнуць да аповесці ці рамана. Не саступаюць па значнасці і лёсы нашых суседзяў па планеце: дуб-старажыл, сабакі, што чакаюць гаспадара, дом як істота, здольная адчуваць радасць і сум. Аднак Казімір Камейша не размяжоўвае глыбока асабістае, значнае для яго аднаго, і «быццам асабістае» — гісторыі, якія маюць за сабой нешта большае, цэннае, патрэбнае чытачу. Можа, варта было б выявіць крытычнасць у ацэнцы абразкоў, пазбягаць паўтораў… Іншая справа, што толькі чытач і можа сказаць, якія з твораў перасягаюць межы «нататак для сябе».

* * *

**Выдатна: апавяданне Кухзода «Маці, жонка, гаспадыня»**. Сярод шматлікіх перакладаў таджыкскіх пісьменнікаў гэты твор адзін з самых блізкіх для айчыннага чытача. Вясковая кабета прачынаецца і засынае разам з радыё, даглядае гаспадарку, выхоўвае дзяцей, пасмейваецца з афіцыйнай прапаганды і згадвае сыноў-салдат, якія служаць у розных кутках магутнага СССР... Ці не кожны беларус пазнае ў гэтым вобразе сваю маці, цешчу, бабулю. Жыццё беларускіх і таджыкскіх сялянак адрозніваласся хіба побытавымі дэталямі. Савецкая эпоха — агульная спадчына многіх народаў...



**Сумніўна: асобныя творы з рубрыкі «Сябрына»**. Таджыкскія пісьменнікі не часта друкуюцца ў беларускіх выданнях, таму хацелася б, каб пераклады знаёмілі не з чарговымі шараговымі творамі, а з літаратурным набыткам безумоўнай мастацкай вартасці. Шкада, што імёны паважаных аўтараў часам суседнічаюць з не вельмі глыбокай прозай ці з паэзіяй, якая вабіць усходнімі аздабленнямі, але не ўражвае зместам. Тым не менш па перакладах можна выдатна ўявіць далёкую горную краіну — яе прыроду, побыт, традыцыі, сучасныя праблемы і літаратурныя арыенцiры.

**На суд чытача: інтэрв'ю з перакладчыкам Ігарам Ягоравым**, прысвечанае кітайскай літаратуры. Проза сучасных кітайскіх пісьменнікаў, якая друкавалася ў «Нёмане» колькі гадоў таму, магла ўпэўніць чытача, што літаратура найвялікшай краіны Усходняй Азіі — адна з самых цікавых старонак сусветнага прыгожага пісьменства. Размова Алеся Карлюкевіча з Ігарам Ягоравым у першую чаргу тычыцца прозы нобелеўскага лаўрэата Мо Яня і разам з тым знаёміць з тэматычнай і стылёвай разнастайнасцю творчых пошукаў кітайскіх пісьменнікаў. Нягледзячы на тое, што беларуская аўтары пераважна арыентуюцца на еўрапейскую літаратуру, сёння варта прыглядзецца і да Кітая!

* * *

**Выдатна: эсэ Вітаўта Чаропкі «Яго вялікасць паэт»**. Кожную старонку перагортваеш з думкай: «Толькі б не апошняя!». Верагодна, гэты твор застанецца адным з лепшых успамінаў пра Анатоля Сыса і яго шматлікіх знаёмых, пра літаратурную сітуацыю 1980-х — 1990-х гадоў. Разважлівасць спалучаецца з унутранай экспрэсіяй, прычым вызначальная мэта аўтара — «пакінуць памяць пра Сыса як пра жывога чалавека з усімі яго вартасцямі і заганамі», і гэта не проста словы. Галоўная якасць твора — рэалістычнасць, якая дорага каштуе, улічваючы, што Вітаўт Чаропка прысвячае каля дзесяці старонак апошнім гадам жыцця паэта, згадвае ўласныя прыгоды ды супольных сяброў.

Папярэднічаюць эсэ два інтэрв'ю, дзе Вітаўт Чаропка адказвае на адны і тыя ж пытанні, бо першае рабілася каля дваццаці гадоў таму, а другое прымеркавана да 55-годдзя з дня нараджэння пісьменніка.

**Сумніўна: паэзія**. Восьмы нумар «Маладосці» — ці не рэкордны па колькасці вершаў, бо ў часопісе прадстаўлена больш за два дзясяткі паэтаў з Беларусі, Украіны, Польшчы, Таджыкістана. Але ўсё тое, што чытач чакае ад паэзіі: эмоцыя, думка, вобраз, дасціпнасць, неспадзяванка, — сустракаецца літаральна ў некалькіх вершах Бахрома Рахматава, Катрусі Танчак, Ігара Астапенкі. Магчыма, справа ў тым, што маладыя творцы яшчэ не адчуваюць сябе прадстаўнікамі нацыянальнай літаратуры, яшчэ не вызначыліся, дзеля чаго і як пісаць. Маладосць — безумоўнае алібі.

**На суд чытача: аповесць Валерыя Гапеева «Уцёкі»** (альбо «ўрывак з ненапісанага рамана»). Кожнаму чалавеку здараецца задумацца пра тое, чаму яго жыццё склалася так, а не інакш, засмучана акінуць позіркам мінулае. Так пачынаецца і новы твор Валерыя Гапеева, праўда, успаміны з юнацтва не дазваляюць вызначыць канкрэтную прычыну незадаволенасці героя, затое дапамагаюць пашырыць пералік не самых лепшых рыс характару.

Пісьменнік звяртаецца да тэмы школьнага жыцця, апісвае гісторыю першага кахання і некалькі старонак прысвячае дзейнасці галоўнага героя ў піянерскай і камсамольскай арганізацыях. Тэма цікавая, але для чытачоў, якія нарадзіліся на парозе другога тысячагоддзя, патрэбна было б дадатковае тлумачэнне — пра ідэю камунізму, камсамол, прынцыпы існавання савецкай дзяржавы. Адна справа — уявіць бойку з вясковымі хлопцамі ці непаразуменні з настаўнікамі, іншая — задумацца аб праблемах палітычнай арганізацыі даўно няіснай краіны. Магчыма, «Уцёкі» — нагода для новага твора, бо распавесці сучасным падлеткам аб прычынах распаду СССР, пазнаёміць іх з «блізкай гісторыяй» сваёй краіны — справа, бясспрэчна, патрэбная!

# «Дажыву да ста, і мяне не ста...»

За агульнай назвай «Сказаць сваю думку Сусвету» ў жнівеньскім «Полымі» хаваюцца небанальныя вершы Андрэя Пермякова. Творы расійскага аўтара для часопіса пераклаў Адам Шостак.

У кароткай біяграфіі Андрэя Пермякова пазначана, што ён скончыў медыцынскую акадэмію, з'яўляецца кандыдатам медыцынскіх навук і цяпер заняты ў фармацэўтычнай прамысловасці. Такі род дзейнасці накладае адбітак на творчасць. Літаратары-медыкі, падпарадкоўваючыся няпісанаму правілу, выяўляюць стрыманасць, не расцякаюцца думкай па дрэве. Падаюцца халоднымі, калі не сказаць — цынічнымі. Але гэта цынізм толькі ў вачах чытача, звыклага да лірычных пяшчотнасцяў у паэзіі/прозе. Насамрэч гэта не больш як разумная аб'ектыўнасць, і свет у такім бачанні падаецца нярэдка даволі жорсткім.

Андрэй Пермякоў не звяртаецца наўпрост да медычнай тэмы. Тут іншае: разуменне каштоўнасці жыцця і разам з тым — яго няпэўнасці, крохкасці, абмежаванасці ў часе. Калі ты абмежаваны «ўшыркі», застаецца паглыбляцца ў сутнасць рэчаў, якія гэтую прастору запаўняюць. Вершы Андрэя Пермякова робяцца каардынатамі, па якіх можна намаляваць графік: некалькі адмераных крокаў па гарызанталі, бясконцасць — па вертыкалі. Бясцэннымі становяцца тут лёгкае пёрка на вадзе і яго цені — «то тыгр паласаты, то дом для камара»; попел уздоўж чыгункі, ягады на дне бочкі, святло ліхтара... Нават людзі ў чарзе — удзельнікі містычнага спектакля.

Смерць у гэтых вершах прысутнічае нязменна — як і жыццё. Але гэта не паэзія смерці, роўна як і не паэзія жыцця. Адно пэўна — сузіранне. Пры гэтым чалавек можа ісці, стаяць, гаварыць, маўчаць — няма істотнае розніцы; так ці інакш, любое дзеянне апынецца выпадковым, то бок ілюзорным. Як бы ты ні жыў, час будзе ісці аднолькава роўна. Яго прыспешванне ці запавольванне — зноў жа, ілюзія. Гэты настрой нуля, адсутнасці радасці і суму, вельмі нагадвае абыякавасць. Толькі абыякавасць — наступства адчаю, а тут — адваротнае: глыбокае разуменне марнасці. Марнасці не як безнадзейнасці, а як умовы абсалютнай свабоды. Усё скончыцца — таму назірай. Калі хочаш.

...Вось міма прабег сабака колеру попелу; вось ты заўважыў аб'яву, што згубіўся шэры сабака; і вось ты думаеш, ці не яго толькі што пабачыў?.. Але якая розніца: нумар тэлефона абарваны. А мо й зусім не існаваў. Так, ёсць у вершах Андрэя Пермякова нешта фатальнае, і, як ні дзіўна, гэта не засмучае, а заспакойвае.

*Глядзіш на гэты снег, раптам кажаш: «Святло».*  
*Ты разумееш пра той і гэты свет.*  
*Ты разумееш, што снег — таксама святло. І воўк таксама святло.*  
*І нават цемень — святло Сусвету.*  
*Свет недасяжны.*

Выбіваюцца з нізкі два вершы. Адзін — дзіцячай радасцю, яркімі колерамі ўспамінаў, дзе ўсё было пэўна і напраўду: *«Жоўтыя аўтобусы. Чырвоныя трамваі. / Сінія тралейбусы. Шэрыя дамы»*. Там было смешна: *«Дзядзя Слава, выпіўшы, паламаў буфет»*, а галоўнае — там быў *«Тата малады»* («1984»). Другі верш — *«Сабаку споўнілася шаснаццаць»* — трагічны да шчымлівага: назва яго паведамляе пра, пэўна, хуткі канец сабачага жыцця, а першы ж радок верша — пра сабачыя спадзяванні на будучае лета, поўнае пахаў, фарбаў і радасці... *«Людзі тут спяваюць, людзі не падмануць. / Я амаладзею, я ж цудоўны пёсік?»*

На жаль, асобныя цытаты не здольныя перадаць усяго аўтара: не палянуйцеся разгарнуць свежы нумар «Полымя».

**Наста ГРЫШЧУК**

# Вечнае каханне і смерць

Як сведчаць культуролагі, тэма смерці, вельмі істотная ў мінулыя эпохі, пераважна ігнаруецца ў сучасным грамадстве. Чалавек прагне прыемнага адпачынку, камфорту і забаў, а думкі пра вечнасць дакладна не падтрымліваюць бадзёры спажывецкі настрой. Але на працягу свядомага жыцця з кожнай новай сумнай нагоды мы спрабуем зразумець непазбежнасць сыходу, асэнсаваць страту блізкіх людзей. Як рэлігія, так і культура звяртаюцца да праблемы смерці. Твор польскай пісьменніцы Анны Аўгустыняк «Я кахала, калі яна адышла», надрукаваны ў «Маладосці», — прыклад сучаснага падыходу да тэмы.

Распавесці пра смерць маці так, як гэта робіць Я-гераіня твора, гадоў 150 таму было б непамысна. Па традыцыі можна прысвяціць асобную ўвагу любаму твару, працавітым рукам, але ніяк не згадваць каля труны, якія адмысловыя станікі насіла маці. Такія недарэчныя думкі мы намагаемся адпрэчыць, а Анна Аўгустыняк знаходзіць ім месца ў «прозе аб паміранні» — побач са шчымлівым жалем і цяжкімі ўспамінамі пра матчыну хваробу (рак, ад якога паміраe кожны чацвёрты жыхар развітых краін). Павольнае развітанне з самым родным чалавекам супадае для гераіні з сустрэчай кахання. Каханне і смерць — дзіўнае ў гэтым выпадку спалучэнне робіць твор яшчэ больш драматычным. Як адзначае польскі крытык, «дзякуючы злучэнню турызму з прыгажосцю, сакральнага і свецкага або сумнення з бунтам, аўтарка дасягае зусім нечаканага эфекту».

Перажыванне матчынай смерці — вельмі асабістая гісторыя, не прыклад, не правакацыя, але магчымасць пераасэнсаваць уласнае стаўленне да заключнага эпізоду жыцця, дзе ёсць месца непахіснасці і роспачы, мужнасці і слабасці, прынцыповасці і разгубленасці.

**Юлія ШПАКОВА**

# Разбураючы стэрэатыпы

**Жаночая паэзія. У сучаснай беларускай літаратуры гэты тэрмін часам мае негатыўную канатацыю. Маўляў, пра што можа пісаць вершы жанчына, калі не пра каханне? Мы вырашылі разбурыць абрыдлыя стэрэатыпы. Сёння жаночая паэзія — гэта наватарскія, смелыя, шчырыя творы пра самыя важныя рэчы і з'явы жыцця. Гэта не толькі ружовыя вершыкі, гэта маніфесты, выклікі, правакацыі. Гэта паэзія, якую варта чытаць.**

## ТАЯМНІЧЫ БОК ВЕРШАЎ

Салодкагалосая сірэна беларускай літаратуры, якая прываблівае мілагучнасцю не толькі свайго голасу, але і паэзіі. Гэта, безумоўна, пра Кацярыну Ваданосаву. Таленавітая спявачка і музыка піша не менш таленавітыя вершы. Пацвярджэнне таму — яе дэбютны паэтычны зборнік «Міфатворчасць».

Непаўторная мелодыка твораў Кацярыны Ваданосавай лашчыць слых. Чытаючы іх, заўсёды чуеш пяшчотны і адначасова моцны голас ці то аўтара, ці то лірычнай гераіні. Кожны твор — чароўная гісторыя. Паэтэса нібыта спявае калыханку сваім няздзейсненым пачуццям — шмат вады, рэкі-караблі, усё сплыве ці, пэўна, даўно ўжо сплыло далёка-далёка. У Кацярыны добрая мова, лаканічна выпісаныя, але дакладныя і аб'ёмныя вобразы. Яна можа граць на такіх тонкіх душэўных струнах, пісаць пра тое, што ты калісьці і сам пракручваў у галаве, але не выказаў. Вершы Ваданосавай у нечым падобныя да лекаў.

А некаторыя — да казак: русалкі, гномы, царыцы, ноч, сон. Атмасфера чараўніцтва і містыкі, што пануе амаль ва ўсёй кнізе, палохае і прыцягвае адначасова. Сам рытм вершаў настройвае на міфічны лад, ён нібы гук ветру ў таямнічым лесе: амаль незаўважны, жахлівы і зачаравальны адначасова. Кнігу немагчыма адолець за адзін «сеанс»: занадта шмат адсылак, якія трэба асэнсаваць, але паступова, уваходзячы ў смак, прывыкаеш, разгадваеш, нібыта ідзеш пра праторанай сцяжынцы. Тонкія назіранні за простымі рэчамі паўстаюць наймацнейшым бокам творчасці Кацярыны Ваданосавай, асабліва калі іронія добра ўплятаецца ў гэтыя назіранні, пазбаўляючы паэтычныя тэксты залішняга пафасу.




*Назіранні за простымі рэчамі паўстаюць наймацнейшым бокам творчасці Кацярыны Ваданосавай. Атмасфера чараўніцтва і містыкі палохае і прыцягвае адначасова.*

Кацярына Ваданосава — фантастычны майстар метафар. Іх можна збіраць прыгаршчамі і захапляцца, як каштоўнымі каменьчыкамі. Гэтая шчыльная метафорыка стварае незвычайны флёр таямніцы, які даволі рэдка знойдзеш у сённяшняй жаночай паэзіі.

## НОВАЕ СЛОВА БЕЛАРУСКАЙ ЛІТАРАТУРЫ

Вершы Насты Кудасавай — здаецца, штосьці большае, чым паэзія. Яе творы хочацца чытаць і перачытваць, смакуючы кожнае слоўка, нават літарку. Тут — незвычайныя вобразы, і непаўторны гукапіс, і самабытная лексіка, і пранікліваць настрою. Не хапае слоў, каб




*Наста Кудасава робіць лексічныя адкрыцці па звыклых словаўтваральных мадэлях, што ўзбагачае не толькі яе паэзію, але і беларускую літаратуру ўвогуле.*

выказаць увесь спектр сваіх пачуццяў. А вось Насці іх заўсёды хапае, а калі і не, то нічога не замінае прыдумаць. Адзін з яе наватвораў даў назву апошняму паэтычнаму зборніку — «Маё невымаўля».

Чытаючы вершы Насты Кудасавай, знойдзеш нямала лексем, не зафіксаваных ні ў адным слоўніку. Зрэшты, слоўнікі не патрэбныя, каб зразумець паэтэсу. Яна не стварае словы-абракадабры — усе яны маюць арганічную беларускую структуру. Напрыклад, слова «невыгаўкны» ўтварылася па аналогіі з «невымоўны». Чаму б яму не існаваць у нашай мове? Яго можна, упэўнена, смела ўносіць ва ўсе слоўнікі, як і «ніскімны», і многія іншыя словы. Наста Кудасава робіць свае лексічныя адкрыцці па звыклых словаўтваральных мадэлях, што ўзбагачае не толькі яе паэзію, але і беларускую мову ды літаратуру ўвогуле.

Вершы Кудасавай ствараюць адчуванне асабістае блізкасці, нібы ты сам гэта ўсё перажыў і напісаў. Пры гэтым не ўзнікае ўражання, што падглядаеш у шчыліну, сочыш за чужым жыццём, не — гэтыя вершы пра цябе, і ты дакладна памятаеш, калі было гэтак жа балюча ці соладка, толькі не памятаеш, калі паспеў напісаць гэты верш.

Вершы Насты Кудасавай — ці не самае лепшае, што магло здарыцца з беларускай жаночай паэзіяй. Шчырыя і праўдзівыя, пяшчотныя і брутальныя, прадказальныя і нечаканыя. Калі вы яшчэ не знаёмыя з творчасцю гэтай таленавітай паэтэсы, раю пачаць з яе першага зборніка «Лісце маіх рук», затым — кнігу «Рыбы» і толькі тады — «Маё невымаўля», бо ўсе выданні — нібы адзін паслядоўны цыкл вершаў, і калі нешта прапусціць, ёсць рызыка, што пазл не складзецца.

## ПАЭЗІЯ ЯК ВЫКЛІК

Юля Цімафеева — асоба ў беларускай літаратуры цікавая і неардынарная. Чытачу яна больш вядомая ў якасці перакладчыцы, у асноўным — англійскай паэзіі. Дэбютную кнігу ўласных вершаў паэтэса выдала напрыканцы 2014 года, чым нарабіла нямала шуму ў сучаснай літаратурнай прасторы.

«Кніга памылак» — менавіта так называецца першы зборнік Юлі Цімафеевай, выданне сапраўды ўнікальнае. І справа не толькі ў смелых, наватарскіх вершах ці перакладах невядомых шырокаму беларускаму чытачу замежных паэтаў, і нават не ў вокладцы, ідэя якой належала самой аўтарцы. Унікальнасць Юлі Цімафеевай — у яе незвычайных вобразах, непаўторных сюжэтах, правакацыйных метафарах. Яна не баіцца называць рэчы сваімі імёнамі, не баіцца быць смешнай. Юля Цімафеева адкрыла новую жаночую паэзію: дзёрзкую, брутальную, вострую. Але вершы паэтэсы не згубілі лірычнасці, жаноцкасці. Гэта вельмі пачуццёвыя верлібры, якія тонка асэнсоўваюць цялеснасць, часам балансуючы на мяжы з эратызмам і фізіялагічнасцю. Гэта еўрапейская паэзія, смелая і бескампрамісная, якая спалучае неспалучальнае, прагаворвае невымоўнае, тлумачыць невытлумачальнае. Назва «Кніга памылак» невыпадковая: толькі праз памылкі-разломы, на думку паэтэсы, прарастае новае, вартае ўвагі.

«Кніга памылак» Юлі Цімафеевай — гісторыя ў трох частках (раздзелах). Кожная мае свае асаблівасці і адметнасці. Першы раздзел «Шэрая птушка» раскрывае светапогляд аўтаркі, яе адчуванне наваколля, стаўленне да жыцця. Праз гэтыя вершы Юля нібыта знаёміцца з намі, паказвае свой свет, які можа быць зусім іншым, нават процілеглым нашаму. Мы можам разумець яе, можам




*Унікальнасць Юлі Цімафеевай — у непаўторных сюжэтах, правакацыйных метафарах. Пачуццёвыя верлібры тонка асэнсоўваюць цялеснасць, часам балансуючы на мяжы з эратызмам і фізіялагічнасцю.*

пагаджацца ці спрачацца, але не застанемся абыякавымі. Другая частка кнігі пад хуліганска-правакацыйнай назвай «Кветкі і мяса» — своеасаблівы маніфест свабоды. Вершы з гэтага раздзела насычаныя феміністычнымі лозунгамі. Самая правакацыйная частка кнігі: тут шмат плоці, жаночага і мужчынскага цела. Паэтэса прымушае нас выйсці з зоны камфорту, задумацца над важнымі рэчамі. А вось апошняя частка «Не ўмець чытаць» складаецца з вершаў пра паэзію, мову, літаратуру. У зборнік таксама ўвайшлі пераклады замежнай паэзіі, пераважна англійскай (Уітмэн, Крэйн, Лоўэл, Уільямс, Плат, Букоўскі і інш.).

«Кніга памылак» — сапраўднае адкрыццё. Дзёрзка, палка, смела, часам нават крыху агрэсіўна. Калі кніга выдавалася як выклік звыклым уяўленням пра жанчыну, то мэта дасягнутая.

## У ПАЛОНЕ РАЗНЯВОЛЕНАСЦІ

Цяжка знайсці больш шчырую і пяшчотную паэзію, чым вершы Таццяны Сівец. Здаецца, нават самы чэрствы чалавек не зможа не расчуліцца ад твораў таленавітай паэтэсы і перакладчыцы. Верныя прыхільнікі творчасці Таццяны Сівец не маглі не заўважыць, як разам з паэтэсай выспявалі і яе вершы. Ад лірычных, па-дзявочы салодкіх вершаў паэтэса паступова дайшла да глыбокіх, мудрых твораў, якія склалі, упэўнена, найлепшую на сёння кнігу аўтаркі — «Разняволенасць».

У ёй мы бачым не наіўную даверлівую дзяўчынку, а свабодную дарослую жанчыну, што не баіцца памыляцца. Разам з тым не зачарсцвела яе чулае сэрца, здольнае кахаць, пакутаваць, аддаваць і прымаць, любіць свет з усімі недасканаласцямі. Пераадолеўшы юнацкія «хваробы кахання», Таццяна Сівец з самаіроніяй ставіцца да сваіх пачуццяў і перажыванняў. Нібы пакепліваючы з сябе, піша, што «самая танная рэч у свеце» — яе каханне.

Аднак наіўна лічыць, што ўся кніга Таццяны Сівец — суцэльная інтымная лірыка, каханне ды коцікі. У паэтэсы ёсць і вершы, што працінаюць адкрытасцю. Вершы-стрэлы, якія яшчэ доўга адгукаюцца фантомным болем. Таццяна можа быць не толькі мілай і пяшчотнай, але і непакорлівай, мужнай, нават жорсткай, у першую чаргу — да сябе.

Вызначальнае месца ў кнізе і ва ўсёй творчасці Таццяны Сівец займаюць пераклады вершаў азербайджанскіх, армянскіх, казахскіх, славацкіх, украінскіх, калмыцкіх, чачэнскіх, рускіх паэтаў... Паэтэса імкнецца данесці беларускаму чытачу таямнічасць гэтых усходніх народаў, зрабіць іх літаратурную творчасць больш зразумелай, блізкай, паказаць, што мы перажываем адны і тыя ж пачуцці, незалежна ад таго, на якой мове размаўляем і ў якой краіне жывём.

Асаблівай для Таццяны Сівец з'яўляецца адзіная паэма «Баку», дзе паэтэса прызнаецца ў любові сталіцы Азербайджана. Баку — горад, дзе паэтэса можа адчуць сябе вольнай, быць сабой, горад, з якім не хочацца развітвацца. Паэма не падобная да оды, хутчэй, да асабістага ліста з прызнаннем у каханні. Баку для Таццяны Сівец — нібы адзіны мужчына, каханне на ўсё жыццё: не ў кожным горадзе на памяць у мора кідаюць не манетку — сэрца!




*Асаблівай для Таццяны Сівец з'яўляецца адзіная паэма «Баку», дзе паэтэса прызнаецца ў любові сталіцы Азербайджана.*

Пра што б ні пісала Таццяна Сівец: каханне ці адзінота, горад ці мужчына, жыццё ці смерць — усе яе вершы прасякнутыя святлом і нязгасным аптымізмам, што напаўняюць душу цяплом і дабрынёй. А ці не ў гэтым сэнс паэзіі?

**Дар'я ЛАТЫШАВА**



Мікола МЯТЛІЦКІ

***

— Дзе, скажыце, ветры буйныя,
Моц такую вы ўзялі,
Што і ў буры ветрадуйныя
Хіляць дрэвы да зямлі?

— Мы над гладдзю акіянскаю
Праляцелі вёрсты ў даль,
Сілу крэпкую, гіганцкую
Узялі ў імклівых хваль.

— Дзе, скажы, агонь бязлітасны,
Расшугаўся так, узрос,
Што з сівое старажытнасці
Столькі бед зямлі прынёс?

— Навальнічнай я маланкаю
Над зямлёю зіхацеў,
Сілу крэпкую, гіганцкую
Атрымаў у кронах дрэў.

— Дзе, скажы мне, мова родная,
Набыла тых дужых сіл,
Што не раз ужо, гаротная,
Уставала з дна магіл?

— Не прасторы акіянскія,
Не маланкі вастрыё —
Сілу мне дае гіганцкую
Сэрца вернае твае.

***

Ірэне

Мы яшчэ з табою дзеці,
Хоць з сівою галавой.
Маці шчэ на гэтым свеце,
Дай ёй, Бог, быць век жывой.

Нас яна падчас пажурыць,
Паўшчувае, як малых.
Шмат раскажа пра ўсе буры,
Што паснулі ў днях былых.

Пра сясцёр і жонак дзеда
І пра той надзел зямлі,
Дзе гарбацілі ўсё лета
І някепска ўсё ж жылі.

І пра голад даваенны,
Што з Чарнігава сюды
Люд прыгнаў у час той тленны
Ратавацца ад бяды.

Як галодную жанчыну,
Што нагой была ў раю,
Упусцілі ў хату з сынам,
Прытулілі, як сваю.

Ручайком журчыць гаворка —
Тчэцца лёсу палатно.
І прыпозненыя зоркі
Зазіраюць у акно.

Быццам вочы маці, свецяць
Сінькай небнаю жывой.
Мы яшчэ з табою дзеці,
Хоць з сівою галавой.

## Памяці Янкі Сіпакова

Іван Данілавіч, сцюжнай зімою,
Дзе веі галосяць на скрушны свой лад,
Вам выпала
Са смерцю самою
Падацца на веча
Славянскіх балад.

Туды, на палі дзей векапомных,
Куды ў стагоддзях не раз ішла
Дачасна яна хадой нястомнай,
Услед за сабою і Вас павяла.

«Паглянь, — сказала, — тут колькі легла
Вояў славянскіх народаў зямлі.
Агнём іх паліла, мячом іх секла,
Каб у нябыт назаўжды сышлі.

Ты ж акрапіў іх вадой жывою,
Непаслухмянец сякі-такі,
Даў ім адзінае — слова-зброю
І абяссмерціў іх на вякі.

Як мне цяпер іх караць нанова?
Як асмяроціць мне іх цяпер?
Зноў падступлюся — страляе слова,
Нават да смерці ў іх недавер.

Кожны мне косці патрушчыць рады,
З рук маіх вырваць прагне касу».
Перачытаў вашы балады,
І агарнулася сэрца ў сум.

Іван Данілавіч, смерці не верце,
Голас ілжывы яе, не жывы.
Вы і сягоння ў вашым бяссмерці —
Вечнай паэзіі вартавы.

***

Спусціўся я ў глыбокі гэты яр,
Дзе ўстаў ажыннік драпкаю сцяной,
Балесных дум ускінуўся пажар
І ў прывідах паўстаў перада мной

Тубыльцаў з вёскі бліжняе, якіх
Стралялі тут фашысты на зары.
І я пачуў жывыя ўскрыкі іх,
Што шчэ не змоўклі з жудаснай пары.

Убачыў, як, забітыя, яны
З зямлі сырой, жывыя, устаюць,
Атросшы жвір магільны ледзяны,
Ваду з крыніцы Святаянскай п'юць.

Вяртаюцца у Быстрыцу сваю
У пошуме кbrowsers крапліcтага дажджу.
А я за часу сценамі стаю
І, расстраляным, ім услед гляджу.

***

З парога XXI стагоддзя
Узіраюся ў будучыню.
У новых дзесяцігоддзях
З'явяцца новыя людзі —
Шчыльна заселяць абсягі
Яшчэ не прыспелага Часу.
Прапішуцца ў ім
Самымі рознымі справамі —
І дабрачыннымі, і злачыннымі,
Як спрадвек было на зямлі.
Напрыдумляюць найноўшых машын,
Робатаў дасканалых,
Каб вызваліць рукі свае
Ад усялякае працы.
І чым жа тады гэтым рукам
Будзе заняцца?
З жахам думаю,
Каб іх пальцы не пацягнуліся
Яшчэ з большаю прагавітасцю
Да гарляка адзін аднаго,
Не натварылі пад Сонцам
Яшчэ болей трагедый.



Вікторыя СМОЛКА

## Маленькая жанчына

Дзе скрыжаваных крылаў спеў няспынны,
Слязой маўклівай слухаць не магу,
Там плача зноў маленькая жанчына,
Вялікім сэрцам гоячы тугу.

Вялікі боль, што ў сэрцы чалавека,
Баліць, мая радзімая, табе.
Святая радасць росіцца з-пад вейкаў,
Калі сыночка чуеш звонкі бег.

Замоўкне гром — народзяцца зарніцы,
Бяссонне-ноч з анёлкам ля грудзей.
І Божых зор нязгаслыя грамніцы
Ў душу тваю не стомяцца глядзець.

Ты любіш свет сардэчнымі вачыма,
Прамяніць твой засмучаны пагляд.
Табе ў паклон, маленькая жанчына,
Валошкай гнуткай хіліцца зямля…

## Запавет

Калі апошнія грымоты адгрымяць,
Калі адмоляцца апошнія маланкі,
Няхай камусьці стане светла
ўспамінаць
Мае асеннія і летнія вяснянкі.

Калі захочацца застацца і пабыць,
Але настане час ускрыльваць сэрца
ў Вырай.
Няхай камусьці будзе радасць палюбіць
Вясніцу-мару, мроі-краскі веснавыя.
Ды хоць адзіная душа на свеце, тут,
Шматкроп'е стомленае песні разгадае,
Калі апошнія напевы адцвітуць,
А з імі сумная Вясніца маладая…

***

Ніколі не будзе, як там, у маленстве,
Крылатых надзей ды фіялкавых сноў.
Хоць Мара абдыме яшчэ маё сэрца,
Маё вершанятка прытуліць наноў.

Ніколі не будзе ўжо мрояў лагодных
І веры святое, што ява іх лёс.
Хоць струны жыцця не забудуць акордаў,
Сатканых Вяснянкай з анёлкавых слёз.

Ніколі пасля больш не выльецца смутак
Чысцюткі на белыя крылы ліста.
І толькі душа адляціць некранутай
Ў раскрыты бутон дзвюх далоняў
Хрыста…

***

Як светла ад Мары да Мамы вяртацца
З загоеным шчасцем дахаткі, дамоў.
І везці ля сэрца маленькую братку,
На ганак за ручку ступаць з васільком.

Як светла, лагодным паўшэптам
сакрэціць —
Казаць дарагой пра сустрэчу — пра міг,
Калі мая Мама ў акенцы засвеціць
Калі ёй паклоніцца ў ногі цягнік.

Як светла заплюшчанай кветкаю вока
Ізноў на расстаннай мяжы адчуваць,
Як сцеле на Мары плячо цёплы дотык
Празорлівай веры мая галава...

***

Знічаняткі кладуцца на полі
Пад нябеснаю коўдрай нязолкай.
Сэрца туліць да соннае мроі
Цёплы крыжык дзіцячых далонькаў.

І так ціха аднекуль, бы покліч,
Па рачулцы нябеснай сцякае.
Ад гарачага ззяння намоклі
Краскі поля, і лугу, і гаю.

Мроя сонная сэрцам бяссонным
Заспявала гучней калыханку.
Цёплы крыжык дзіцячых далоняў
Цалаваў яе спевы да ранку…



Барыс САВІНАЎ

## А ў дабрыні, што ў цішыні

А ў дабрыні, што ў цішыні,
Спрыяе прахалода.
І даспадобы ночы, дні…
Дабро — як асалода.

Дабро — яно заўжды дабро!
Калі з душой адкрытай,
Калі завострана пяро —
І верш твой дараўіты.

У цішыні і думкам — рай,
Так розум я шліфую.
Калі пачуцці цераз край —
Не наўздагад пішу я.

## Спагады век нам не хапае

Спагады век нам не хапае:
Чужая болька не баліць.
Глядзіш — і сэрца замірае,
Бо сябра твой і той маўчыць.

Усё нібыта ў футарале,
Пад хцівай ласкаю нястач,
А там — душа нібы ў астрале
І груз нябачаны… Хоць плач…

А там — турма, нячысцік сніцца,
Грахоў прытулак, мар каўчэг,
Ды нам ад ганьбы не ўхіліцца,
Жыцця ўжо не прыпыніш бег.
Сумленне ціхенька скрабецца,
Ды сілы волі нестае.
Мой лёс… Ён і не паддаецца,
І жыць спакойна не дае.

Замкнуцца і адгарадзіцца,
У неба ўзняўшыся? Але…
Але табе ўсё толькі сніцца…
Ты незнарок туды пралез.

## Вярнуцца

Жыццё хацеў я паўтарыць,
Вярнуцца да сваіх пенатаў,
Ды двойчы не магу любіць
Той экскурс, яўна пуставаты.

Вярнуцца ў тое, што ўцякло,
Ужо няма тае рачулкі,
Гадоў зашмат ужо сплыло,
Адказ, нібыта груз той мулкі.

Не варта ўжо назад глядзець,
Сябе карыць за ўсё не варта.
А з ранкам новым разам днець
І крочыць з поспехам у заўтра.

## Павінны мы ў каханні жыць

Павінны мы ў каханні жыць,
Замацаваць законы Бога,
Хай сэрца вашае трымціць
Ад ранку да начной знямогі.

Кахання нельга шкадаваць,
Яго раздзьмухваем пажар мы,
Як трэба розум ратаваць,
Хвіліны лічым мы без жалю.

За намі след у след ідзе
Каханне — нават не схавацца,
Яно сівее ў барадзе,
Карціць яму ў рабро прабрацца.

І па-сапраўднаму ўвайшло!
Твае ўсе клеткі зачапіла.
І там прытулак свой знайшло,
Душу і цела захапіла.

Аснова нашага жыцця —
Кахання светлага цяпельца,
А на далонях пачуцця
Радзімы любай б'ецца сэрца.

**Пераклад з рускай Рэгіны РЭЎТОВІЧ**



Ганна СКАРЖЫНСКАЯ-САВІЦКАЯ



*Апавяданне*

# Залатая дзяўчынка

Ангеліна — самая непрыгожая дзяўчынка ў класе. Хлапчукі-аднакласнікі абзываюцца, смяюцца з яе доўгага, з гарбінкай, носа, рэдкіх рудых валасоў. А галоўнае — тварык дзяўчынкі, нібы яечка куліка, увесь у вяснушках. Ангеліна з жахам падыходзіць да люстэрка. Бывае, цэлы тыдзень не глядзіцца, каб не сапсаваць настрою. З люстэрка на яе заўсёды пазіраюць прыгожыя, але сумныя-сумныя вочкі. У іх не па гадах адлюстраваны роспач, смутак і незадавальненне сабою.

Аднойчы ў класе, дзе вучылася Ангеліна, з'явіўся вучань з паралельнага класа. Падышоў да яе і пачаў рагатаць:

— Ха-ха-ха! Баба Яга з гарбатым носам! Малпа рыжая! Лысая! Фу-у-у! — крычаў Валерык, паказваючы пальцам на Ангеліну.

Дзяўчынка не ведала, што рабіць, куды схавацца. Вочы засцілалі слёзы. У роспачы памчалася на вуліцу. Забегла за школу, забілася ў куточак і наўзрыд заплакала.

«Чаму ніхто не заступіўся?! Значыць, усе вучні думаюць гэтак жа! Чаму я такая нешчаслівая?!» — плакала яна.

Пасля такога стрэсу яна не пайшла больш на заняткі, не вярнулася ў клас. Без рукзака рушыла дадому. Балючы жах сціскаў сэрца, у вушах звінелі словы абразы...

«Заўтра таксама не пайду ў школу… і паслязаўтра… і ніколі-ніколі не пайду… — думала бедная Ангеліна. — Як я буду глядзець у вочы аднакласнікам?»

Але тут прыйшла другая, супрацьлеглая, думка.

«А як жа будуць глядзець мне ў вочы аднакласнікі? Чаму ім не сорамна, што не заступіліся за мяне, не прагналі гэтага абзывалу Валерыка з класа? Няхай ім будзе брыдка за свае паводзіны. Я стану моцнай, я ўсё перажыву! Хутка скончыцца пераходны ўзрост, і я буду прыгожай».

Дома яшчэ нікога не было. Мама і тата на працы, брат Вадзік у дзіцячым садку. Ангеліна зірнула ў люстэрка: падпухлыя ад слёз вочы, доўгі гарбаты нос, а галоўнае — гэтыя агідныя вяснушкі яшчэ больш гарэлі на бледным тварыку.

— Сапраўды кікімара! Чаго тут крыўдзіцца?!

На душы было так прыкра, быццам туды закінулі чорную абсмаленую галавешку, якая балюча тлела, апякала.

— Божа! Чаму я такая непрыгожая?! Навошта ты мяне стварыў такую?! Каб з мяне здзекаваліся?! За што мне ўсё гэта?! Што мне рабіць?! — адчайвалася яна.

Змучаная, заснула моцным сном.

Снілася: прабіраецца яна праз густы, кашлаты яловы лес. Калючыя іголкі балюча б'юць па твары. Ногі, рукі, усю яе драпаюць густыя непралазныя зараснікі і старыя елкі. Здаецца, канца-краю няма гэтаму цёмнаму густому лесу. Знясіленая дзяўчынка ўзняла вочы ў неба і ўбачыла, як праз агідны калючы ельнік прабіваюцца светлыя, цёплыя сонечныя праменьчыкі. Прыжмурыла вочкі і нечакана для сябе ўсміхнулася.

Ангеліна не заўважыла, як выйшла з лесу на ясную сонечную паляну, поўную прыгожых лясных кветак. Танцавалі казачна-прыгожыя матылькі. Настрой імгненна змяніўся, яна радасна запляскала ў далоні і закружылася разам з матылькамі. Ды раптам заўважыла, што адзенне на ёй бруднае і парванае.

«Нічога, — падумала Ангеліна, — усё роўна, акрамя матылькоў, ніхто мяне тут не ўбачыць».

І ў гэты момант на ёй заззяла прыгожая доўгая сукенка сонечна-аранжавага колеру, уся ўсыпаная блішчынкамі, як у казачнай прынцэсы.

— Ах! Як прыгожа! Як цудоўна! — дзівілася Ангеліна. — Але хто гэта мне ўсё падарыў?

Дзяўчынка зірнула на неба і ўсміхнулася сонцу.

— Сонейка, гэта ты?! І, напэўна, ты, неба?!

Яна закружылася і адчула, як развейваюцца веерам яе густыя, доўгія валасы.

— Хто падарыў мне такія валасы? — усклікнула Ангеліна. — Я ведаю, гэта вы, сонца і неба!

Неўзабаве пачуўся тоненькі пералівісты звон. Дзяўчынка азірнулася і ўбачыла казачна апранутага хлопчыка, які ішоў да яе і званіў у залаты званочак…

У гэты момант Ангеліна прачнулася. У іх кватэру хтосьці бесперапынна званіў. Яна спахапілася і пабегла адчыняць дзверы. На парозе стаяла аднакласніца Жанна, з якой яна сядзела за адной партай.

— Я прынесла твой рукзак, — прамовіла яна і апусціла галаву.

— Дзякуй, — сказала Ангеліна.

— Ну, я пайшла… да пабачэння… — развіталася аднакласніца і рушыла да ліфта.

Ангеліна зачыніла дзверы і вярнулася ў свой пакой. Легла на канапу і заплюшчыла вочы.

— Які цудоўны казачны сон. Хачу, каб ён прадоўжыўся!

Але душа зноў заныла. Яна ўспомніла сённяшнюю сцэну ў класе.

«Не думаць пра дрэннае! — раптам запярэчыў унутраны голас. — Толькі добрыя думкі могуць перамяніць тваё жыццё да лепшага!»

«Але дзе тыя добрыя думкі? — сумна падумала дзяўчынка. — Нічога прыемнага ў маім жыцці не было. Адны прыкрасці ў школе, здзекі. Што можа ўзрадаваць, акрамя таго, што вучуся добра?»

«Дык гэта ж цудоўна! — усклікнуў унутраны голас. — За гэта і чапляйся! Усміхніся! Усмешка ўпрыгожвае. Ты станеш сімпатычнай!»

— Сімпатычнай?! — ухмыльнулася Ангеліна, абыякава пазіраючы на столь.

«Так! Зразумела!» — не адступаў унутраны голас. — Ты станеш прыгожай! Уяві, цябе сёння не абсмяялі, а, наадварот, нагаварылі кампліментаў, асыпалі цудоўнымі, самымі цёплымі словамі. Усміхніся. Ты самая прыгожая дзяўчынка ў класе! Ты самая таленавітая!»

— Хопіць! Адчапіся! — закрычала Ангеліна.

«Не хопіць! — не згаджаўся ўнутраны голас. — Валерык сказаў, што ты вельмі прыгожая, добрая, твае рысы твару вельмі прыемныя. Падымайся, усміхайся, зрабі што-небудзь карыснае…»

— Ну ўсё, дастаў, — прабурчала дзяўчынка і, незадаволеная, пайшла на кухню.

«Можа, прыгатаваць любімыя мучныя аладкі? Іх усе любяць. І маме будзе радасць і дапамога ад мяне», — узніклі думкі ў галаве, — а пра дрэннае і пякучае сапраўды пастараюся не думаць. Прыйдзе час, і ўсё стане на свае месцы».

Вечарам уся сям'я сабралася за сталом. Ангеліна свяцілася шчасцем ад маміной і татавай пахвальбы.

— Якая смаката! — хваліў тата. — Нават у мамы аладкі не такія смачныя і румяныя атрымліваюцца! Тут, напэўна, ёсць нейкі сакрэт?

— Ёсць, — згадзілася дзяўчынка, — усё трэба рабіць з усмешкай і любоўю да справы.

Мама падняла здзіўленыя вочы.

— Малайчы-ы-ына! — працягнула яна. — Правільна разважаеш. Аладкі сапраўды свецяцца тваёй усмешкай і дабрынёй!

— Так, так, яны круглыя, жоўценькія, як цёплае сонейка, і вельмі смачныя! — пацвердзіў брат Вадзік, махаючы пад сталом ножкамі ад задавальнення.

Ангеліна адразу ўспомніла сонечны сон, што прысніўся днём. Дзяўчынцы падалося, што парванае, бруднае адзенне паступова спаўзае з яе збялелай душы. І там паціху ўзыходзіць сонейка. Яна абвяла ўсіх паглядам і цяжка ўздыхнула. Ніхто нават не здагадаўся, што перажыла дзяўчынка ў школе.

«Я моцная! Я ўсё вытрымаю!» — запэўніла яна сябе.

Ангеліна хуценька зрабіла дамашнія заданні. Яна больш не думала пра негатыўнае.

— Сёння Валерык асыпаў мяне кампліментамі. Ён сказаў, што я вельмі прыгожая. Я самая прыгожая! У мяне ўсе рысы твару прыемныя, — шаптала сабе дзяўчынка, калі легла спаць.

Але не вытрымала — устала з канапы, уключыла святло і падышла да люстэрка. Пачала разглядаць сябе.

«Калі крыху падмаляваць вейкі, бровы зрабіць танчэйшымі, акругліць твар, тады нос стане менш заўважны і не такі доўгі, — па-дарослому разважала Ангеліна, — можна карыстацца касметыкай. Я ўжо ў пятым класе!».

Дзяўчынка ўсміхнулася і заўважыла, што твар яе пакруглеў, зрабіўся больш прывабным. А вочкі павеселелі і заблішчэлі надзеяй на лепшае будучае.

«Не, нічога не буду рабіць. Толькі больш есці, каб пакруглелі шчочкі, тады і носік стане прыгажэйшым. Але ж гэтыя вяснушкі! Што з імі рабіць?»

«Ну і што? — зноў умяшаўся ўнутраны голас. — Падумаеш, у Алы Пугачовай таксама вяснушкі... Ха! Дзівачка! Не сумуй! Гэта ж азначае, што ў дзень твайго нараджэння да цябе завітаў вясёлы сонечны праменьчык і пацалаваў у самы носік. І цяпер ты залатая дзяўчынка! Цудоўна!»

Ангеліна ўсміхнулася і пайшла спаць.

Раніцай у класе яна старалася не думаць пра тое, што адбылося ўчора. Бадзёра прывіталася з аднакласнікамі і прамяніста ўсміхнулася. Павісла цішыня. Нібы зачараваныя, вучні пазіралі здзіўлена. З'явілася іншая дзяўчынка — самаўпэўненая, жыццярадасная і нават прыгажэйшая!

«Малайчына! Малайчына! — трыумфаваў унутраны голас. — Спрацавала! Так трымаць! Я з табою!»

Ангеліна зноў усміхнулася. На ўроках яна ўпэўнена адказвала на пытанні, а калі чаго не ведала, дык толькі сціпла ўсміхалася. І настрой не псаваўся.

З кожным днём дзяўчынка была ўсё больш задаволена сабой. З аднакласнікамі старалася сябраваць, нікому не адмаўляла ў дапамозе, растлумачвала незразумелыя тэмы і неўзабаве займела аўтарытэт.

Прыгажуні не маглі зразумець, што робіцца з іх аднакласніцай.

Незаўважна прабег навучальны год. Ангеліна паступова прывыкла толькі да прыемных і добрых думак пра сябе, аднакласнікаў, сяброў, настаўнікаў. Унутраны свет дзяўчынкі настолькі ўзбагаціўся пазітыўнай энергетыкай, што яе хапіла б на ўвесь клас. Ангеліна даўно, з таго самага дня, калі яе абразіў Валерык, адганяла дрэнныя думкі, не звяртала ўвагі на непрыемныя словы ў свой адрас. Навучылася прабачаць. І жыццё яе стала больш радасным і светлым.

Цяпер Ангеліна дасканала ведала, што яна прыгожая дзяўчына, а галоўнае — моцная духам! Гэта была свядомая тайна. І нікому яна яе не адкрые…

Праляцелі гады. Ангеліна вырасла. Стала сімпатычнай і мілай. Вяснушкі на яе твары з'яўляліся толькі вясною і летам. Быццам сонейка напамінала, што яна залатая дзяўчынка, і пасылала ёй свае адмецінкі. А восенню вяснушкі патухалі — адпачывалі разам з сонцам.

Вось і апошняя лінейка. Шмат цёплых, прыемных пажаданняў і наказаў пачулі выпускнікі. На душы Ангеліны было радасна, святочна, але крыху трывожна… Апошні званок, а дакладней, званочак, звінеў у руках першакласніка, якога вёў за руку абаяльны, высокі выпускнік у святочным касцюме з гальштукам-матыльком і ясной прамяністай усмешкай. Гэта быў Валерык. Так, той самы Валерык, што калісьці, як здавалася дзяўчыне, смяротна яе пакрыўдзіў.

Праходзячы каля Ангеліны, юнак здзіўлена зірнуў у яе чыстыя, шчырыя вочы. Хлопец сумеўся і нават крыху сцішыў крок. Такіх вачэй ён яшчэ не сустракаў. Дзяўчына адкрыта, адважна, без следу даўнішняй крыўды, глядзела на яго. А потым перавяла позірк на першакласніка, які падаўся ёй знаёмым, і раптам успомніла свой даўні казачны сон з дзяцінства. Ангеліна зразумела, што гэта той самы чароўны хлопчык, якога яна сустрэла на кветкавай паляне!

…На выпускным вечары Ангеліна выглядала прынцэсай.

Лёгкі макіяж надаваў ёй асаблівы шарм. Сукенка залациста-сонечнага колеру, як у тым казачным сне, пацвярджала, што яна сапраўды залатая дзяўчына. Разам з выпускнікамі Ангеліна спявала і танцавала.

Валерык увесь вечар патаемна назіраў за ёю, а потым адважыўся запрасіць на танец. Ён вёў дзяўчыну ў танцы і не зводзіў з яе вачэй. Потым юнак пяшчотна сціснуў руку ў сваёй цёплай далоні і шчыра сказаў:

— Ты стала такой прыгожай, Ангеліна, а сёння дык асаблівая…

Дзяўчына сціпла апусціла вочы і заірдзелася, нібы спелая восеньская рабіна. Крыху памаўчаўшы, Валерык дадаў:

— Я хачу папрасіць у цябе прабачэння за тое, што некалі, у пятым класе, балюча абразіў цябе. Цяпер вельмі шкадую. Памятаеш, я ж тады быў сапраўдным хуліганам. Усім надакучваў сваімі паводзінамі. Прабач мне… І яшчэ… я б хацеў з табой сябраваць… — пачырванеў хлопец, — ты мне вельмі падабаешся.

Ён зірнуў у разгубленыя вочы Ангеліны і пяшчотна правёў далонямі па яе шаўковых залацістых валасах…

**У працяг тэмы міжнароднага супрацоўніцтва, распачатай у папярэдніх нумарах, «ЛіМ» прадстаўляе чытачам творчасць двух расійскіх паэтаў — Саліха Гуртуева (Кабардзіна-Балкарыя) і Адама Ахматукаева (Чачня) у перакладах на беларускую маладых паэтэс Юліі Алейчанка і Валерыі Радунь.**

## Саліх ГУРТУЕЎ



## Беларэчанскія матывы*

### 1

*Абыякавы рэчкі бег
Да ўсяго, што вакол існуе.
Быццам плачам змяніўся смех,
Калі роспач надзею заб'е.*

*Быццам толькі пра мора марыць
Ў танцы дзікім сястра-рака.
І пачуцці свае хавае
Да магутнага ледавіка.*

*Горы ціха застылі ў жаху,
Усё зматае яна на бягу.
Ух, не даць бы ў танцы маху
У імкненні к ледавіку.*

*Ці памерла любоў векавая?
Калі так — легчы з ёй у труну.
Загубіла доля ліхая,
Быццам вецер ў гарах сасну?*

*І бяжыць адна толькі рэчка,
А каханне ўжо не імчыць…
Пачуццё застаецца вечна,
Быццам снег, што на схілах
ляжыць.*

* Белая Рака («Ак Суу») — роднае сяло аўтара.

### 2

*Маё слова не каменем — пухам
Ў цішыні з вуснаў ляціць.
Белай Рэчкі напоены духам —
І таму мне сумленна жыць.*

*Побач вольхі стаяць над ракою,
Давяраюць сакрэты свае.
Толькі шчырасць — шлях
да спакою.
Як адкрытасці нам нестае!*

*Калі вочы гараць, як агаты,
Калі позірк любоўю гарыць,
Ты, каханая, не вінавата.
Толькі палка, напоўніцу жыць!*

*Што ёсць Белая Рэчка?
Падручнік!
Нам дыктуе хваля ракі:
У сустрэчах няма прымусу,
Пацалункі нам — не грахі!*

*Параслі берагі кізілам —
Лёс для нас пакідае сляды.
Аддавайся юначым сілам
І вучыся ў неба, вады.*

*Колькі ў зорах высокіх жарсці,
Прыгажосці ў рэльефах зямлі!
Дыхай вольным паветрам
упарта,
Смагу волі сваёй наталі!*

### 3

*Завушніцы гараць вадаспадаў
Ледзяшамі ў сонечны дзень.
Мы на свеце яшчэ не страчалі
За каханне сілы мацней.*

*Маладзеюць старыя з каханнем,
У вачах зноў іскрынкі гараць.
І сумуюць з кожным расстаннем,
І не могуць спатканне чакаць.*

*Хай не бачна ў святле месяцовым
Лік каханай бывае ўначы.
Ды народзіцца ранак новы.
І ад лёсу не уцячы.*

*Нашым марам не ведаць стомы,
Сонца парастак бачыць і так:
Кліч любові пагоніць з дому,
Як прадвесне, як светлы знак.*

*Слухай сэрца, прыроду слухай:
Лёгкі вецер — прадвеснік бур.
Маё слова не каменем, пухам
Пасылае юны Амур.*

*Не давай пагасаць жаданням.
Не пярэч! Хай льюцца смялей!
Ад прыроды ідзе каханне —
Ты ж насустрач кроч весялей.*

*Маё сонца, мая прыгажуня,
Ты мяне, прашу, не карай!
Ты — зацішак ў жыццёвым тлуме.
Ты — узімку ласкавы май.*

*І чаму тут здзіўляцца? Не бачу!
І папрокаў не чую заўжды.
Стрэць каханне — шанц і удача.
Ў светлы дзень, крылаты —
сляды.*

### 4

*Сёння стрэў пажылога суседа —
Ад здзіўлення не вымавіў слоў:
Быццам зыркай начной каметай
Скінуў цяжар сваіх гадоў.*

*Вось як вечар робіцца ранкам,
Калі зноў заіграе кроў.
Хай жа будзе ўсім спадзяванкай:
Пераможа гады любоў!*

*Як ён лёгка цяпер ступае,
Як кідае ветлы пагляд!
Хто яго на шляху страчае,
Сам пачуццям аддацца рад.*

*Саграваe яго каханне,
Як прамень, што зямлю асвятліў.
Як сляпому зрок — ратаванне
Ды крыніца вясновых сіл.*

*І паднебныя высі зможа
Ён скарыць, бы арол крылом.
Крочыць смела, з усмешкай гожай.
Светлым імем быў блаславён.*

*Аднагодкі ў след паглядаюць.
Бедакі, смяюцца з яго.
Так, не ўсе сакрэт разгадаюць.
І не знойдуць шчасця свайго.*

*Перамогу не ўсе адсвяткуюць,
Не прагоняць ляноту душы…
Як каханыя вусны цалуюць,
Божа, зведаць дапамажы!*

### 5

*Страусінай бялее спінай
Схіл пагорка пабляклай травой…
Калі іншаму нешта ты вінна —
Хоць бы позіркам зноў супакой.*

*Мае думы ляжаць бурдзюкамі —
З кожным днём усё цяжэй, цяжэй.
І гады праляглі вякамі:
Бачу ўсмешку тваю радзей.*

*Попел мараў развей над светам
І ўведай прыўкраснага скон.
Не заўжды са шчаслівым
білетам —
Помні лёсу сумны закон.*

*Ў снах салодкіх няма карысці.
Сарамлівасць, скавала, як лёд.
Можа, зноў да вытокаў плысці?
Ці пусціцца ў вольны палёт?*

*Словы-стрэлы пранзаюць душы…
Дрэнна шчасця збіраў ураджай.
Я хаваць адзіноту мушу,
Праліваць смутак за край.*

*Я спытаў: «У цябе нарачоны?»
Не чакаць мне шчасця цяпер.
Толькі словаў сухіх перазвоны
Чую, на паляванні звер.*

*Не сарваў я зялёны яблык
І ваўком для лані не стаў.
Ды няўжо ў артэрыях зяблых
Кроў цяпер замяніла вада?*

*Для мяне ты свет не адкрыла,
Абяцанне сваё не дала.
Маіх дум перабітыя крылы
Над узгоркам, дзе звяла трава.*

*Ноччу ціхай складаю радкі я —
Як самому горкі дакор.
Паміраюць словы жывыя,
З нематою жыць з гэтых пор.*

*Мае вочы — панурыя хмары.
Шлях адгэтуль акружны, крывы.
Не губляйцеся, светлыя мары!
Зашуміце салодка, гаі!*

### 6

*Не ў пару гэты снег выпаў —
Птушкі ў замець будуць канаць.
Ды не ўсё ў акрузе засыпаў —
Кветка суму не можа спаць.*

*І каханню майму не спіцца.
Ранні снег не здолеў прыкрыць.
Зноў даводзіцца ім наталіцца.
Не магу без пачуццяў жыць!*

*Што той снег — не у час і ранні?
Не адзін я на свеце такі.
Сіл набраўся ад нарцкіх казанняў,
Я забуду пра сон на вякі.*

*Не баюся крутых абрываў.
Нездарма вы чуеце зноў,
Што халамцы не палахлівы,
Што сагнуць можа толькі любоў.*

*Ад Усходу дайшоў да Халама
Смак любові, што зведаў
Меджнун.
І нязгасная тая слава
Можа лёгка свет агарнуць.*

*Нават у самай жорсткай завеі
Ў нашых жылах не стыне кроў.
Без віна мы ўраз захмялеем,
Калі грэе сэрцы любоў.*

*Так, халамец вар'яцтва святога
Не цураецца. Як жа быць?
Ак-Кая дзень вітае новы.
Мы ж клянёмся па сэрцы жыць.*

*Помнім звычаі… Важны звычай —
Перашкоды змятаць на шляху.
І усім сумленна я зычу
Весці шчасце сваё за руку.*

### 7

*А натхненне — срэбным
званочкам,
Яно солі праўды бялей…
Што твой князь? Толькі
цёмнай ночкай
У адхланні соладка млей.*

*Зноў ва ўсмешцы тваёй каханне
Разгарэцца не можа ніяк.
Звон вячэрні, гулкае ранне…
Ах, чаму я не вопытны маг?*

*Задыхаюцца, гінуць пачуцці,
На павеках згасае заход.
Ланцугамі да праўды прыкуты,
Не спыню я гісторыі ход.*

*Бы ад він, ад бясед-баляванняў
Захмялеў салідны мужчына —
Пэўна, я да свайго канання
Не пакіну любові лавіну.*

**Пераклад з рускай Юліі АЛЕЙЧАНКА**

## Адам АХМАТУКАЕЎ



## Уноч зіхаціць месяцовы радок…

*Уноч зіхаціць месяцовы радок,
Зноў мне самоты прыносіць
глыток.*

*Раніцай сум над маёй
галавой —
Думкам журботным
цесна ў ёй.*

*Гэтаю ноччу, самотнай
такой,
Я прапусціў у душу неспакой.*

*«Маці, няўжо згіне свет
назаўжды?» —
Злому пытанню — вякі,
не гады.*

*Маці адказ — той, што
казкаю быў.
Ліха ў дзіцячыя сны
не пусціў —*

*Бездань гадоў з таго
часу сплыла —
Маці сапраўдны адказ
мне дала:*

*«Час надыдзе — і ты
згубіш, сынок,
Бацьку, што ў кожнай
бядзе дапамог.*

*Час надыдзе — я таксама
сыду,
Слёзы мае не адхіляць бяду.*

*Раніцай золкай у чорны
той дзень
Неба заплача — і свет
прападзе…»*

*З гэтай пары заўважаць
я пачаў,
Як набліжаецца страшны
той час.*

*Шляхам няпростым цяпер
па жыцці
Мне без самоты ужо
не прайсці.*

*Уноч зіхаціць месяцовы радок,
Зноў мне самоты прыносіць
глыток.*

*Раніцай сум над маёй
галавой —
Думкам журботным
цесна ў ёй.*

## Дзе б ні быў, дзе б ні лётаў…

*Дзе б ні быў, дзе б ні лётаў —
Краю родны, я твой.
Ці табе на журботу,
Ці на поспех на мой.*

*Як не здолею лётаць,
Ты спявай без мяне —
Ці то мне журботу,
Ці на поспех табе.*

## Дзве бездані маўклівых воч тваіх…

*Дзве бездані маўклівых
воч тваіх
Танулі ў сэрцы, вабілі,
манілі.
І, бы дзіця, глядзеў я
шчыра ў іх —
Ды зразумець іх моцы
не хапіла.*

*Дзве бездані маіх вачэй
штодня
Ў табе адказ на ўсё жыццё
шукалі.
Ты ж, як дзіця, не здолеў
іх прыняць,
І наша шчасце полымя
забрала.*

## Вечар ціха горы засцілае…

*Вечар ціха горы засцілае.
Услед, бы звер, за мной
крадзецца змрок.
…У гэту ноч раблю я
госцем тайным
Свой у невядомасць
першы крок.*

*Ноч у небе каршуном палюе,
Ў доме, дзе даўно ўжо
згас ачаг,
З ёю я за карані ваюю,
Адбіваю родны двор і дах.*

*І нікому спадчына такая
Не патрэбна — міражом
стаіць.
Для вайны ж прыдатна
ўсё бывае —
Дні хачу былыя аднавіць.*

*Да знямогі я цяпер працую,
Душыць безвыходнасці палон.
Той агонь, што у грудзях
танцуе…
Тоўшчу лёду не растопіць ён.*

*Хай у печы-чораве і цесна,
Не здаецца, ўспыхне
дзе-нідзе…
Праз імгненне абарвецца
песня —
Зноўку на вуголле ён сыдзе.*

*Прашчураў сляды шляхоў
бясконцых —
Так даўно сышлі ў нябыту сон.
Гэтак жа, бы спаленае сонца,
Згасае, гіне мой агонь.*

*Следам ноч адыдзе, нібы
прыступ,
Кіне тут — і зноў адзін стаю.
Я заплачу глуха, зубы сцісну —
Перамогу цемры прызнаю.*

*Цемры ўслед пашлю
па дапамогу
Боль, ды толькі, як душы
набат,
Голым нервам памяці
нямоглай
Вернецца ў куток
між гор назад.*

**Пераклад з рускай Валерыі РАДУНЬ**

Ініцыятыва

# Традыцыям — пашана

## У Мілашове адкрылі мастацкую галерэю ў пуні і прэзентавалі дыск вясельных песень

Для гарадскіх жыхароў, якія маюць магчымасць ледзь не штодзень наведваць культурныя імпрэзы, чарговая прэзентацыя дыска, кнігі ці нават адкрыццё галерэі — падзея зусім шараговая. А вось для вяскоўцаў, якія кожны дзень цяжка працуюць, маюць шмат клопатаў па гаспадарцы, прыезд фактычна любога дзеяча культуры, магчымасць з ім пазнаёміцца — вялікае свята. Але не для жыхароў Мілашова, што на Мёршчыне. Справа ў тым, што тут ужо некалькі гадоў ладзяцца імпрэзы ў межах праекта «Мілашоўска-Мілашаўскія чытанні». За гэты час па запрашэнні арганізатаркі чытанняў, вядомай пісьменніцы-казачніцы Алены Масла гасцямі вёскі паспелі пабыць многія пісьменнікі, спевакі, мастакі. Вось і сёлета на чытанні ва ўтульную вёсачку на беразе маляўнічага возера завіталі дарагія госці, каб прэзентаваць дыск вясельных песень, які мае непасрэднае дачыненне да гэтых мясцін, а таксама паўдзельнічаць у адкрыцці мастацкай галерэі «Пуня».

### «ВЯСЕЛЛЕ ПЕЛА І ПЛЯСАЛА»

Дыск «Вясельныя песні і найгрышы вёскі Лявонпаль і яе навакольляў у запісах Сяргея Панізніка 1968 — 1969 гадоў», выдадзены музыкам Сержуком Доўгушавым, можна назваць сапраўднай машынай часу. Ён пераносіць нас на беларускае вяселле, што адбывалася амаль паўстагоддзя таму. Дыск змяшчае тры дзясяткі вясельных песень і мелодый, якія спявалі і гралі ў сярэдзіне мінулага стагоддзя на Мёршчыне. Адметна, што некаторыя з песень запісаныя на сапраўдным вяселлі Яўгеніі Шадурскай і Франца Адамовіча, што адбывалася ў Лявонпалі 18 — 19 жніўня 1969 года. А танцы — полькі, вальсы, кракавяк і маршы для маладых «за стол», «як дорацць маладую» змешчаны менавіта ў тым парадку, у якім яны гучалі на свяце. Яшчэ больш дэталёва адчуць атмасферу таго далёкага свята дапамогуць фотаздымкі, зробленыя Сяргеем Панізнікам у Лявонпалі і ваколіцах у жніўні 1969 года.

Цікава, што Сяргей Сцяпанавіч не проста запісаў вясельныя песні, але і зрабіў іх навуковае суправаджэнне. Так, мы ведаем, як завуць усіх спявачак і музыкантаў, у чыім выкананні гучаць песні і мелодыі на дыску. А ў буклеце, што суправаджае саму кружэлку, для зручнасці змешчаныя тэксты ўсіх спеваў. Гэтыя рысы музычнага выдання ператвараюць яго ў сапраўдны дапаможнік для аматараў беларускага фальклору, для тых, хто цікавіцца мінуўшчынай і імкнецца працягваць традыцыі, ладзячы і ўласнае вяселле ў аўтэнтычным беларускім стылі. А гэта асабліва актуальна ў наш час, калі вяртаецца «мода» на традыцыі.

Але вернемся зноў у Мілашова. Адметна, што на прэзентацыі гэтага дыска, што прайшла ў касцёле Маці Божай Шкаплернай, прысутнічала сама маладуха (так у Мілашове называюць нявесту) з таго гістарычнага вяселля Яўгенія Шадурская. Як прызналася жанчына, перад сустрэчай з мілашоўцамі яна вельмі хвалявалася і ў той жа час спадзявалася пабачыць сваіх былых вучняў. Справа ў тым, што ў мясцовую школу маладая настаўніца Яўгенія, ураджэнка Лявонпаля, прыехала працаваць па размеркаванні. Тут яна і сустрэла свайго будучага мужа Франца. Вяселле святкавалі некалькі дзён. Як успамінае спадарыня Яўгенія, у той час гулялі на вяселлі не толькі запрошаныя госці, але і аднавяскоўцы. Яны збіраліся каля хаты, усе разам танцавалі, весяліліся. Быў сярод гасцей і чалавек з двума фотаапаратамі ды магнітафонам. Гэта аднакласнік маладой, вядомы паэт, журналіст Сяргей Панізнік. Менавіта дзякуючы яго руплівай працы, уменню «кансерваваць час» мы можам пачуць




выдатныя вясельныя песні і найгрышы ў аўтэнтычным выкананні капэлы ў складзе скрыпкі, бубна і кларнета.

Натуральна, не абышлася прэзентацыя без спеваў. Вясельныя песні (а многія з іх — з таго самага дыска пра Лявонпальскае вяселле) гучалі ў выкананні Сержука Доўгушава, Юліі Літвінавай, гурта з Полацка «Варган». А пра адметнасці святкавання вяселля на Палессі распавяла тэлевядучая Ларыса Мятлеўская.

### ГАЛЕРЭЯ… У ПУНІ

Не кожны беларускі райцэнтр можа пахваліцца галерэяй, а вось невялікае Мілашова ўжо мае сваю самую сапраўдную выставачную прастору. Яна размясцілася ў пуні (гаспадарчая пабудова, дзе захоўваецца сена) на сядзібе Стэфана Масла, таму і атрымала назву «Пуня».

— Неяк наша дачка, мастачка Крысціна, разам з сяброўкай прыехала ў Мілашова на пленэр. Каб карціны сохлі, іх ставілі ў пуню, якая ўжо колькі гадоў стаіць пустая, — распавядае Алена Масла. — І майму тату падалося, што карціны ў пуні глядзяцца вельмі гарманічна. Спачатку зрабіў там для Крысціны майстэрню, а пазней яна ператварылася ў сапраўдную галерэю.

Дарэчы, у «Пуні» ўжо працуе і першая выстаўка. Тут прадстаўленыя работы маладой мастачкі Крысціны Баранавай і ўжо вядомай творцы Аксаны Аракчэевай. На карцінах — як вясковыя краявіды, прадметы побыту, так і выявы сталічных вуліц. Паводле творчай задумкі куратараў выстаўкі, экспазіцыя мусіць паказваць пераемнасць паміж рознымі пакаленнямі мастакоў, а таксама знаёміць жыхароў Мілашова з мастацкімі творамі розных жанраў. Арганізатар «Мілашоўска-Мілашаўскіх чытанняў» Алена Масла паабяцала вяскоўцам, што «Пуня» не будзе стаяць пустой і размесціць работы многіх выдатных беларускіх мастакоў.

### ЗАВІТАЛІ Ў ДРУЮ І ЛЯВОНПАЛЬ

Праект «Мілашоўска-Мілашаўскія чытанні» прадугледжвае не толькі адну сустрэчу. Зазвычай арганізатары ладзяць цэлы шэраг імпрэз у суседніх вёсках. Вось і на гэты раз «Вясельны картэж» (калі можна так жартоўна назваць удзельнікаў прэзентацыі дыска) завітаў на радзіму Яўгеніі Шадурскай, у вёску Лявонпаль, а таксама ў Друю. У Лявонпалі прайшла вельмі вясёлая вечарына з песнямі і танцамі, а ў друйскім дзіцячым доме адбылася міні-прэзентацыя новай кнігі Алены Масла «Мяне завуць Лахнэска», ілюстратарам якой стала Аксана Аракчэева.

Але на гэтым сезон чытанняў не скончыўся. Мяркуецца, што аматары Мілашова, мілашоўцы і ўсе, хто хоць аднойчы пабываў у гэтай цудоўнай вёсцы, зноў сустрэнуцца на новай імпрэзе ўвосень. На гэты раз яна пройдзе ў сталіцы.

**Марына ВЕСЯЛУХА**

Супрацоўніцтва

# Да прастораў Казахстана

**Шмат розных культур у свеце. Як і літаратур. А між тым менавіта літаратуры, культуры розных краін — гэта галінкі ў магутнай кроне. У кроне Дрэва мастацкага слова. Выдавецкі дом «Звязда» надае шмат увагі міжнароднаму творчаму супрацоўніцтву. Так, падчас чарговага міжнароднага круглага стала гаворка ішла пра творчыя стасункі з краінамі бліжняга і далёкага замежжа, і ў першую чаргу — пра ўзаемадзеянне і ўзаемны ўплыў літаратур Беларусі і Казахстана.**

Дырэктар — галоўны рэдактар Выдавецкага дома «Звязда» Алесь Карлюкевіч адзначыў, што казахскія літаратуразнаўцы і перакладчыкі аказваюць Беларусі неацэнную дапамогу ў рэалізацыі сумесных літаратурных праектаў. Дзякуючы намаганням калег з Казахстана мы даведваемся, што адбываецца ў літаратурным працэсе гэтай краіны. «Мы выбудоўваем карціну казахскай літаратуры на старонках айчынных літаратурна-мастацкіх перыядычных выданняў», — адзначыў Алесь Мікалаевіч.

Паводле мадэратара круглага стала, паэтэсы і перакладчыцы Юліі Алейчанка, геаграфія мастацкага перакладу, адлюстраваная на старонках беларускай літаратурна-мастацкай перыёдыкі, даволі шырокая: гэта творы ўкраінскай, сербскай, кітайскай, англійскай, нямецкай літаратуры. А што да казахскай, то летась у часопісе «Полымя» была надрукавана паэма Галыма Жайлыбая «Чорная хустка», прысвечаная сістэме лагераў Карлаг, што ўваходзіла ў склад ГУЛАГа, у перакладзе маладога беларускага паэта Адама Шостака. Сёння ў нашай краіне наладжаны кантакт і з казахскім часопісам «Простор».

Намеснік галоўнага рэдактара часопіса «Полымя» Алена Мальчэўская падкрэсліла, што ўмацоўваюцца не толькі літаратурныя, але і агульнакультурныя стасункі краін СНД. У Брэсце пачынаецца міжнародны фестываль «Белая вежа», дзе будуць прадстаўлены тэатры краін СНД.




Фота Ільі Катусава.

Падчас круглага стала.

Вельмі цікава ўвайсці ў духоўны свет пісьменніка, які жыве ў іншым моўным асяродку. Такую думку выказаў падчас размовы паэт, публіцыст, перакладчык, галоўны дырэктар галоўнай дырэкцыі міжнароднага вяшчання Беларускага радыё Навум Гальпяровіч, у творчым арсенале якога маюцца і пераклады твораў казахскай літаратуры.

— Практычна ў кожнага пісьменніка ёсць твор, напісаны з сумам, з болем, гэта датычыць і твораў пра родную мову. Але любоў да роднай мовы ні ў якім разе не павінна замінаць іншаму пачуццю — любові да мовы і культуры братніх народаў, — упэўнены Навум Якаўлевіч.

Пісьменніца, навуковы супрацоўнік інстытута літаратуры і мастацтва імя Мухтара Аўэзава Святлана Ананьева звярнула ўвагу ўдзельнікаў круглага стала на тое, што беларускія літаратары шмат робяць дзеля ўмацавання, пашырэння і прызнання ролі мастацкага перакладу ў свеце. Святлана Віктараўна прыгадала калектыўную манаграфію па гісторыі казахскай літаратуры, выпушчаную ў Казахстане ў 2004 годзе, і зазначыла, што літаратурная прастора краіны ўключае і казахскую, і рускую, і уйгурскую літаратуру.

Пра дзейнасць Выдавецкага дома *Hertfordshire Press* (Вялікабрытанія) распавёў яго дырэктар Марат Ахмеджанаў. Установа спецыялізуецца на выданні кніг пісьменнікаў Еўразіі (сёння выйшла больш як 70 кніг 45 аўтараў, у тым ліку амаль 20 кніг казахскіх пісьменнікаў). Сярод іх пакуль няма беларускіх твораў, аднак адпаведныя праекты, у тым ліку сумесныя з Выдавецкім домам «Звязда», ужо распрацоўваюцца. «Ад якасці мастацкага перакладу залежыць не толькі тое, як кніга будзе ўспрынята і які рэзананс атрымае, але ці дойдзе ўвогуле да чытачоў, ці знойдзе сярод іх свайго», — лічыць выдавец.

Літоўскі пісьменнік, дырэктар выдавецтва «Тры зорачкі» Яронімас Лаўцюс упэўнены: галоўнае для перакладчыка — максімальна дакладна перадаць сэнс арыгінала. А гэта немагчыма, калі перакладчык «эмацыянальна сляпы», калі ён не ўмее суперажываць, не адчувае ўнутранага свету твора.

І з гэтым цяжка паспрачацца.

**Яна ЯВІЧ**

# Расслаенне часу, гульня з рэальнасцямі


«Талерантнасць».

**Яшчэ паэты Срэбнага стагоддзя, эпохі сімвалізму заклікалі творцаў бачыць дэталі, робячы іх самай надзейнай праявай быцця. У акцэнтах, дробязях сутнасць і цяперашняй фатаграфіі, прычым тых, што не на паверхні, душэўных. Сутнасць можа быць абстрактнай ці выкананай у плыні поп-арту, залежнай ад пэўных дэкарацый або самастойнай, гіперрэалістычнай — галоўным у сучасным мастацтве паўстае чалавек і яго асабісты свет, адбываецца рух ад знешняга да ўнутранага.**

АФАРЫЗМЫ З ЯБЛЫКАЎ

Раскрыты напалову, быццам крыху недаверліва, гранат, сумны яблык, пабіты часам, агурочны «інтэрнат», маркоўнае «раздолле», гарбуз, што зваліўся, відаць, з высокай столі і адбіў бакі, грушы, што рыхтуюцца стаць кампотам… Як змясціць у звычайных нацюрмортах глыбокі сімвалізм, разважанні пра ўзаемаадносіны, чалавечыя ідэалы, характары і настроі? Пра гэта ведае Алік Замосцін, чыя выстаўка «Агароднінны базар» працуе ў Нацыянальным гістарычным музеі Беларусі. Аўтар — чалавек свету, філосаф і заўзяты падарожнік. Нарадзіўся ў Мінску, але з'яўляецца грамадзянінам яшчэ дзвюх краін — Ізраіля і Канады. Яго назіранні адкрываюць новы від сучаснай фатаграфіі — фатаграфічныя байкі і прыпавесці.

Час уносіць карэктывы ў разуменне рэальнасці, Алік Замосцін — таксама. Раскрывае сутнасць прадметаў, на якія мы амаль не звяртаем увагі, тых, што сталі часткай штодзённасці. Здавалася б, здымкі аўтара бяруць пачатак у класічным нацюрморце, але ў іх — яркі адбітак творчага пошуку, неардынарная форма падачы. Актуальная фатаграфія ў разуменні мастака — гэта малюнак вобразамі, глыбока суб'ектыўнае, не павярхоўнае, з пэўным падтэкстам, і не адным. Кожны фатаграфічны малюнак пры вонкавай прастаце — цэлы расповед, іранічны ці сумны. Пра адзіноту, роднасць душ, талерантнасць, роспач і прыгажосць. Яго садавіна і гародніна — прататыпы людзей, нас саміх у нестандартных і складаных сітуацыях. Гэта набор жыццёвых сцэнак, сатырычных і лірычных адначасова.

Алік Замосцін увасабляе яшчэ і актуальны сёння прыклад змешвання жанраў. Яго працы называюць фатаграфічнымі навеламі, такімі, дзе абавязковай ніткай выступае мараль. Літаратура і мастацтва на адной плоскасці. Фатаграфіі прыраўноўваюцца да афарызмаў, дакладных, ясных. Аўтар звязвае слова і малюнак. Фатаграфіі і подпісы да іх непарыўныя, яны як адзіны сюжэт, прыём дзеля адной мэты.


«Сварка».


«Вось ужо ўпала, так упала».

Фатограф лічыць, што людзі жывуць, каб вучыцца, адкрываць новыя грані ісціны, праз цяжкасці становіцца мудрэйшымі. Жыццё — у пастаянных зменах. Ён сам, аб'ехаўшы паўсвету, будаваў дамы, працаваў у кампаніях, займаўся бізнесам, шукаў сябе. Але ніколі не расставаўся з фотаапаратам. Ведаў, што варта паглядзець на прыроду і павучыцца ў яе. Яго працы — гэта таксама суцэльныя пошукі. Яшчэ адна асаблівасць цяперашняй фатаграфіі.

У Аліка Замосціна ўжо ёсць псіхалагічная серыя, прысвечаная рукам. У планах — распавесці пра дрэвы, гіпнатычныя, амаль сакральныя перапляценні галін і ствалоў. А потым — узяцца за партрэты, новы для яго жанр. Ён упэўнены, што фатаграфію трэба ствараць, гэта не працэс капіравання рэальнасці.

**Марыя ВОЙЦІК**

# Апынуцца за межамі фокуса

## дазваляе 3D-мастацтва Мікалая Батвінніка



Фотаздымак — застылае імгненне, нагода для разважання над праблемай, дзеяннем, сюжэтнай кампазіцыяй, якая ўсяго толькі секунда вялікага працэсу. Ці думалі вы калі-небудзь пра тое, што адбывалася ці будзе адбывацца па-за межамі фокуса? Ці не жадалі самі апынуцца ў абстаноўцы, якая пасадзейнічала стварэнню імгненнай фотакарткі? Калі не, то скарыстацца магчымасцю і хоць раз апынуцца па-за фокусам не асабістага здымка прапануе фотамастак Мікалай Батвіннік. Менавіта эксперыментальным выставачным праектам аўтара «*Out of focus*» пачаўся новы сезон у мастацкай галерэі «*DK*».

Мікалай Батвіннік імкнецца адыходзіць ад стэрэатыпаў і займаецца крэатыўным мастацтвам, здольным разняволіць і адцягнуць чалавека ад бытавых сацыяльных праблем. У творчасці аўтара размова толькі пра высокае і свабоднае, таму творы яго адчуваюцца на ўзроўні свежага паветра.

Новы праект фотамастака «*Out of focus*» складаецца з 3D-фотаздымкаў, інсталяцый і падзяляецца на тры часткі. Першая — «*Dark room*». Тут сутыкненне з аналагавай фатаграфіяй: глядач апынаецца ў цёмным пакоі, дзе ўсе здымкі апраўленыя пунсовай святлодыёднай лентай. У памяшканні своеасаблівая атмасфера містычнасці. Здаецца, вось-вось, і здымкі пачнуць варушыцца, гаварыць, нават неяк жудасна становіцца. Гэтая частка экспазіцыі закранае пытанне існавання аналагавай фатаграфіі, бо, на думку мастака, са з'яўленнем сучаснай тэхнікі фатограф можа зрабіць сорак здымкаў за хвіліну, але нават не задумаецца пра правільнасць іх кампазіцыі. Іншая справа з плёнкай. Перад тым як націснуць на спускавую кнопку затвора, аўтар тысячу разоў прадумвае пабудову кадра: святло, сілуэт, цені, і ў выніку можа з першага разу зрабіць ідэальную фатаграфію. У гэтым і сэнс: плёнка вучыць думаць, знаходзіць канцэпцыі, выхоўвае густ аўтара. Таму перад тым, як аналагавае фотамастацтва знікне канчаткова, творца прапаноўвае паразважаць над каштоўнасцю яго існавання.

Другая частка выстаўкі атрымала назву «Дальназоркасць». Мікалай Батвіннік актыўны карыстальнік сацыяльнай фотасеткі «Інстаграм», у якую, як лічыць аўтар, кожны дзень людзі пасцяць вялікую колькасць здымкаў, некаторыя з якіх дастаткова ўдалыя, але ж ёсць проста хлам і пустота, не вартыя прагляду. Ва ўласны акаўнт мастак імкнецца выкладваць эксклюзіўныя, тэматычныя фота з сэнсам, глыбокай ідэяй да разважанняў. Менавіта здымкі з «Інстаграма» творцы склалі другую частку выстаўкі. Здаецца, што ў гэтым арыгінальнага? Не спяшайцеся рабіць вынікі: галоўная фішка — у падачы матэрыялу. Убачыць невялікія па памеры кадры (у раздрукаваным выглядзе) можна толькі на адлегласці трох метраў праз бінокль. Чаму так? Усё проста: фотаздымкі ў штодзённым жыцці, даступныя для ўсіх уладальнікаў смартфонаў, становяцца творамі мастацтва, якія трэба разглядаць, аналізаваць з пункту гледжання эстэтыкі, глыбіні задумы. Ды і ўвогуле цяпер няма магчымасці ўспрымаць іх у адкрытым доступе.

Для прагляду трэцяй часткі экспазіцыі патрэбныя 3D-акуляры, без іх адчуванне твораў будзе няскончанае. Здымаеш акуляры і быццам бы проста разглядаеш палотны, а калі апранаеш зноў — з аднаго боку апынаешся на марскім узбярэжжы, не адводзіш вока ад лініі гарызонту альбо пераходзіш на другі бок і становішся наведвальнікам самотнага прыморскага кафэ, дзе шум хваляў натхняе ўспамінамі. Паколькі 3D-фатаграфія для Беларусі — практычна новая з'ява ў мастацкім працэсе, то цікавасць да творчасці Мікалая Батвінніка невераго́дная. Як паказвае практыка, апынуцца па-за фокусам фотакамеры сапраўды цікава: наведвальнікі выстаўкі бесперапынна фатаграфуюцца каля вялізных марскіх пейзажаў, па некалькі разоў здымаючы акуляры, каб спачатку вярнуцца да рэальнасці, а пасля зноў паглыбіцца ў атмасферу марской рамантыкі. Па словах мастака, многія людзі ўспрымаюць яго творчасць як атракцыён, але ж задума была іншая. Аўтару хочацца, каб наведвальнік змог адчуць сябе ўнутры працэсу мастацтва свабодным, натхнёным і закаханым у тое, што адбываецца побач.

Мікалай Батвіннік больш як трыццаць год здымае на плёнку. Але ўсведамляе, што грамадства падышло да мяжы, калі аналагавае фота становіцца фетышызмам. Таму ён і паспрабаваў далучыцца да 3D-фатаграфіі. Раней у мастака быў запланаваны 3D-праект пра спорт, дзе ўсё было прадумана да дробязяў, але праект прыйшлося адкласці на паліцу. Толькі праз пэўны час, дзякуючы галерэі «*DK*», творчыя напрацоўкі ўсплылі падчас работы над выстаўкай «*Out of focus*».

**Вікторыя АСКЕРА, фота аўтара**



# Сваё бачанне

## Каштоўныя ролі Алесі Грыбок

**Беларускае кіно дагэтуль застаецца для айчыннага гледача вялікай таямніцай. Яе спрабуюць раскрыць у айчынных фільмах, на кінафестывалях. Разабрацца ў беларускім кіно дапамагаюць і акцёры. «ЛіМ» спытаў у беларускай актрысы Алесі Грыбок, чаму аўтарскае кіно самае шчырае, як атрымаць ролю мары і якія «падводныя камяні» чакаюць будучых зорак экрана.**

### ЗАМЕЖНЫ ДОСВЕД

Паўгода таму на «Беларусьфільме» закрыўся акцёрскі аддзел. Алеся Грыбок кажа, што цяпер акцёры фактычна бяздомныя: «Як быццам ты чалавек без грамадзянства, для мяне гэта жах. Але яны ўсё роўна здымаюцца — бачу гэта хаця б па стужцы ў сацыяльных сетках. Ды што і казаць: я ў гэтым годзе сама здымаюся ў дзвюх беларускіх стужках. Чаму б і не?»

Актрыса зараз жыве ў Маскве, але літаральна праз дзень бывае ў Беларусі: здымаецца тут у некалькіх стужках, а ў Расіі выконвае ролі ў серыялах і выкладае менеджмент кінаакцёра ў кінашколе: «Наогул здымацца ў Расіі цікава, але ёсць сцэнарыі, якія самі па сабе нецікавыя, ёсць рэжысёры, якія не зацікаўлены ў тым, каб зрабіць добры серыял, бо ён ужо куплены. Але ёсць і маленькія ролі, якія вельмі каштоўныя і любімыя. Для акцёра не так важна, наколькі роля будзе вялікая — яна павінна быць разнастайнай».

Расійскія серыялы здымаюцца і ў Беларусі, але нашы акцёры ўсё роўна спрабуюць скарыць Маскву, нягледзячы на тое, што там і сваіх акцёраў хапае: «Тут пытанне ў індывідуальнасці: наколькі ты ўнутры аўтэнтычны, наколькі не падпарадкоўваешся агульнай плыні, бо вельмі вялікая спакуса паддавацца ўплыву: акцёры не ведаюць, куды рухацца, яны разбалансаваныя».

Алеся кажа, здараецца, што акцёры здымаюцца ў непатрэбных ім праектах, якія «гвалтуюць наўпрост іх прыроду», але забываюцца на галоўнае — усвядоміць, якая роля сапраўды каштоўная. Як бы банальна гэта ні гучала, але ў кінематографе кожнай краіны павінны быць акцёры з індывідуальнасцю: «У Маскве канкурэнцыя вельмі высокая, нават калі ты прафесіянал, калі ты ўнікальны, ніколі не ведаеш, які фактар сыграе супраць цябе».

Здымачны працэс амаль паўсюль аднолькавы. Акцёр павінен паказаць, на што здольны. Але што датычыцца Беларусі, Алеся кажа, што тут «рынак менш, усіх ведаеш, а ў Расіі кожны раз знаёмішся з новымі людзьмі. І энергетычна ў Маскве вельмі цяжка: там кожны абараняе сваю прастору, а ў Мінску, канечне, утульней».

Магчымасцей для здымак у беларускіх акцёраў хапае — Алеся ў гэтым упэўнена, бо сама працуе і тут, і ў Расіі, не так даўно здымалася ў Чэхіі, працуе над стужкай, здымкі якой адбудуцца ў Будапешце: «Магчымасці ёсць усе! На сёння свет да такой ступені адкрыты, што галоўнае — перастаць ставіць сабе нейкія межы. У нас існуе праблема псіхалагічная, вакуумнага свету. Напрыклад, еўрапейцы адкрытыя і зацікаўленыя ў працы з нашымі акцёрамі. Проста трэба знайсці падыход».

### ЛЮБОЎ ДА НЕЗАЛЕЖНАГА КІНО

Алеся адзначае, што «ў кіно ніколі не ведаеш, што атрымаеш у выніку, для акцёра гэта заўсёды рызыка». Свайго роду рызыкай быў і праект, у якім Грыбок здымаецца зараз — беларускае фэнтэзі «Неруш», заснаванае на скандынаўскіх легендах і беларускіх міфах. Пра стужку Алеся амаль нічога не гаворыць, але бачна, што ідэя ёй вельмі падабаецца, да таго ж здымкі адбываюцца ў адным з найпрыгажэйшых куткоў краіны — на Блакітных азёрах.

У Беларусі здымацца досыць проста, «як і паўсюль, — канстатуе Алеся, — не магу сказаць, што тут іншая спецыфіка. Па ўсім свеце працуе адна і тая ж схема: спачатку цябе ніхто не ведае і даюць эпізадычныя ролі. Я таксама хаджу на «Беларусьфільм», знаёмлюся з тымі, каго не ведаю, чакаю прапаноў, здараецца, што і не атрымліваю».

Нягледзячы на тое, што беларускага кіно выходзіць не так шмат, як, скажам, расійскага, прафесія акцёра ў нас запатрабаваная. Пра гэта сведчаць і прахадныя балы ў Акадэмію мастацтваў, і прыклады: «Я бачу запатрабаванасць, але кажу не толькі пра кіно — ведаю дзяўчыну, якая вучылася ў Акадэміі мастацтваў, а цяпер працуе ў двух тэатрах, — неверагодная магчымасць для маладога акцёра».



*Кадр са здымак фільма «Неруш».*

Сёння маладыя акцёры могуць рэалізавацца сябе і ў кіно — хаця б у расійскіх серыялах — «гэта досыць добры плацдарм, а незалежнае кіно — наогул неўзаранае поле, мая любімая тэма. Мне падаецца, калі хочаш атрымліваць ролі, пра якія марыш, трэба здымацца ў незалежных стужках, часам бясплатна, але ў рэжысёраў, у якіх ёсць сваё бачанне».

Менавіта ад іх, лічыць Алеся, залежыць і будучыня беларускага кіно: «Такіх людзей, якія рызыкуюць, маюць свой пункт гледжання і прынцыпы, мала. Ім усё роўна, кім была знятая стужка пэўнага фармату — Германікай ці Даланам, — яны самі хочуць паспрабаваць, прайсці гэты шлях».

На пытанне «З кім з маладых беларускіх рэжысёраў хацелася б папрацаваць?» Алеся адказвае адразу і без сумневаў: «З Кудзіненкам. Я вельмі люблю фільм «Масакра», нягледзячы на тое, якая была задума і ці, можа, што не атрымалася, — я ад яго ў захапленні».

### АДДАЦЬ ЖЫЦЦЁ

«Сёння ў нас ёсць магчымасць зрабіць новае — штосьці такое, чаго не было ў Беларусі. То бок, практычна ўсё, што б мы ні зрабілі, будзе новым, — кажа Алеся пра сучаснае беларускае кіно, — і гэта выдатна, што мы самі можам фарміраваць айчынны кінематограф і ўваходзіць у гісторыю! Рызыкаваць — гэта як адчуць смак сапраўднага жыцця».

Многія кажуць, што беларуская кінашкола ўжо састарэла, адукацыя ў сферы кіно ідзе ў тым жа напрамку. Але Алеся мяркуе, што гэта не зусім так: «Напрыклад, адукацыя акцёра — наогул не адна школа. Навучанне ва ўніверсітэце — толькі база, як і ва ўсім свеце. Каб раскрываць розныя грані майстэрства, трэба развівацца і вучыцца ў розных выкладчыкаў. Наша справа як акцёраў — усё жыццё працаваць над сабой. Але ёсць яшчэ і праблема адкрытасці адукацыі: у акцёраў атрафіраваўся орган, які адказвае за інтуіцыю, што «менавіта тут мне трэба быць», што кінафестываль — гэта не толькі прагляды фільмаў, але і адказы на пытанні пра кіно, магчымасці пазнаёміцца з замежнымі калегамі».

Нядаўна Алеся Грыбок знайшла адказы на пытанні пра кіно ў кнізе «Возера радасці»: «Там ёсць момант, калі чытач разумее, што адзін з герояў — сам аўтар. І ў гэты момант адчуваеш, што пісьменнік размаўляе менавіта з табой. Я зразумела, што чытаю кнігу пра саму сябе. Тое ж самае адбываецца і ў кіно: калі глядач на экране бачыць беларускую рэальнасць, раптам разумее, што ён існуе, ідэнтыфікуе сябе з героем».

Гэта менавіта тое, што магло б прывабіць гледача да айчыннага кіно, бо сёння яго аўдыторыя не такая вялікая, як хацелася б і рэжысёрам, і акцёрам: «Ключ, у якім распавядаюць пра беларускі кінематограф, трэба тэрмінова змяняць — пакаленне ўпэўненае ў тым, што беларускага кіно няма, а гэта самае небяспечнае».

Алеся лічыць: «Калі глядзець на кінапрацэс з акцёрскага боку, то ёсць магчымасць існавання беларускага кіно, але патрэбен чалавек, які будзе гатовы пакласці ўсё сваё жыццё на гэта: напрыклад, каб сабраць адзіную базу беларускіх акцёраў. На жаль, альтруістаў не так шмат, і мала хто здольны адмовіцца ад усяго дзеля выратавання кінематографа».

### АЎТАРСКАЕ = ШЧЫРАЕ

Алеся стала вядомай пасля здымак у серыяле «Вышэй за неба». Актрыса кажа, што фільм стаў яе любоўю, вялізным кавалкам жыцця. Грыбок і цяпер з задавальненнем знялася б у беларускім серыяле: «Я толькі за! У мяне нават ёсць такая "ружовая мара": вельмі хачу, каб зняўся адзін серыял, пілотная серыя якога ўжо ёсць. Там беларускія акцёры, беларускія аўтары — словам, усё сышлося».

Зараз Алеся выконвае адну з галоўных роляў у стужцы маладога беларускага рэжысёра Влады Сяньковай *«ahaha»*, і гэта сапраўды важны крок для актрысы: «Я не веру ў тое, што пашанцуе, я не веру ў выпадковасць. Кажуць: "Ой, як пашанцавала!". Мне сапраўды пашанцавала аднойчы, калі ў Влады Сяньковай знайшлася роля для мяне. Гэтага магло не здарыцца, а праз некалькі год, хто ведае, я магла б перагарэць да незалежнага кіно, да рызык, да эксперыментаў. А гэта мне зараз проста неабходна. Ды і аўтарскае кіно мне падаецца шчырым: здымаецца як бачыцца».

Здымацца ў беларускім кіно Алесі падабаецца, але гэта не значыць, што акцёрская праца лёгкая: «Канечне, бывае цяжка! Усё выдатна, мы ўсе шчаслівыя ў той меры, у якой можам быць шчаслівымі, але вось што: цяжка, калі ёсць канкурэнцыя, але калі яе няма — яшчэ цяжэй. Бо гэта шлях назад. Калі я працавала над выданнем кнігі пра менеджмент кінаакцёра, мне казалі, што я фактычна гадую сабе канкурэнтаў. Так, мне хочацца, каб у Беларусі, калі я прыходжу на пробы, я бачыла яшчэ 50 актрыс, якія б прымусілі пахвалявацца — у выніку я б спрабавала скокнуць вышэй за галаву. Індустрыя змяняецца з-за такіх маленькіх дробязей».

**Маргарыта ДЗЯХЦЯР**

# Дзякуй за вясну

**Памятаеце, калі пачынаецца май? Дакладна не вызначыш, што адбываецца ў гэты час. Але нешта змяняецца і ў жыцці, і ў нас — напэўна, так ва ўсіх. Пра май пішуць кнігі, спяваюць песні і… здымаюць фільмы. Дэбютная стужка маладога беларуса Аляксея Свірскага — адна з такіх.**

Аляксей — аператар у Белтэлерадыёкампаніі. Звычайна ён працуе па іншы бок камеры, але штосьці прымусіла хлопца не толькі зрэжысіраваць уласную стужку, але і выканаць у ёй адну з галоўных роляў. Кіно Свірскага ўжо наўрад ці падасца беларускаму гледачу чымсьці новым: мы ўжо бачылі штосьці падобнае, напрыклад, у Мікіты Лаўрэцкага, які, дарэчы, стаў аператарам панаю фільма.

«Май» — мамблкор у чыстым выглядзе: дыялогі надзвычай натуральныя, менавіта такія, якія мы чуем, ідучы па вуліцы ці размаўляючы з сябрамі; ролі выканалі акцёры-аматары, а бюджэт у стужкі наўрад ці вялікі. Але ж сам рэжысёр кажа, што яго стужка — хутчэй эма-фільм, дзе размаўляюць не так шмат, але многа глядзяць удалячынь, свайго роду інтымны рэалізм, як у любімага рэжысёра Свірскага Мэцью Портэрфілда. Менавіта ў яго, дарэчы, Аляксей і пазычыў ідэю «Мая».

Сюжэт нагадвае некалькі стужак разам: тут ёсць штосьці і з «Непрыбраных ложкаў» Алексіса Дос Сантаса, і з «Маіх чарнічных начэй» Вонга Кар-Вая. Пошукі сябе рэжысёр паказвае не толькі праз сваіх герояў, але і праз гарады, у якіх яны жывуць.

Андрэй жыве ў Мінску. Ён самотны, магчыма, нават замкнёны, але знаходзіць сілы, каб пагуляць з сябрамі ў футбол ці папіць разам кавы. Але яго самотнасць усё гэта ніяк не хавае. А Марына жыве ў Берліне, яна заблыталася ў жыцці, не можа знайсці працу і не ведае, што хоча рабіць далей. Дзве душы, якія блукаюць на ўласных лёсах, раз на год сустракаюцца на фестывалі ў Польшчы, але гэтым разам штосьці пайшло не так.

Неверагодная прыгажосць Берліна, якая адкрываецца яшчэ ярчэй з боку таго, хто там жыве, сапраўды ўражвае. У Берліне з «Мая» вы не ўбачыце Рэйхстага, Брандэнбургскай брамы ці Музейнага вострава, але знойдзеце толькі невялічкі намёк: дзесьці ўдалечыні кадра з'явіцца тэлевежа на Александэрплац. «Май» — кіно, якое распавядае і пра Мінск праз вочы яго жыхара: зеленаваты, з фантанамі, прасторай, свежай кавай на праспекце.

Нельга сказаць, што стужка Аляксея Свірскага — гэта нешта нечаканае і наватарскае. Гэта, зноў жа, кіно пра нас. Тут і мы самотныя, і мы ў сумненнях, і мы ў чаканні, і мы ў жаданні выгаварыцца. Беларускае кароткаметражнае кіно ўсё ж накіравана на тое, каб адлюстроўваць нашае жыццё, магчыма, праз параўнанні. Штучна створаным зараз нікога не здзівіць — падробка нашмат танней арыгінала, але так і выглядае. Паказаць натуральнае, рэальнае, у нейкім сэнсе асабістае, інтымнае — на гэтым і заснаваны падыход малабюджэтнага кіно, якое можа быць цікавым гледачу.

«Май» — стужка, якая пакажа адваротны бок чалавека, яго перажыванні і маркоты. Кіно, якое на «Оскар», канечне, не прэтэндуе, але тым, хто знаходзіцца ў пошуках сябе, дапаможа.

**Соф'я КВЯТКОЎСКАЯ**

# Стваральнік казак у мастацтве і жыцці

## Напоўненыя сэнсам 75 гадоў Леаніда Улашчанкі

Чалавек, як жывая істота, пераадольвае ў жыцці цэлы шэраг этапаў. Калісьці старажытныя грэкі імкнуліся выявіць галоўны змест гэтых этапаў. Яны лічылі, што жыццё чалавека ў біялагічным сэнсе кожны раз мяняецца праз сем год: дзяцінства, малалецтва, юнацтва, маладосць. Апошняе заканчваецца ў дваццаць восем год — «калі падае бег». Але ў плане духоўнага вымярэння ў старажытных быў іншы адлік: трэба трыццаць год вучыцца, трыццать год падарожнічаць і трыццаць год мысліць і пісаць. Іншымі словамі, набыць досвед жыцця, стасункаў, паглядзець, як жывуць іншыя, і потым, калі якасна ўсё гэта абагульніш, стварыць сваё на памяць і на радасць людзям. Ёсць вялікія стваральнікі, слава якіх (як і памяць пра іх чалавецтва) распаўсюджваецца далёка за межы іх роднай зямлі. Але вельмі важна адзначыць, што побач з асобамі, якіх мы лічым вялікімі, заўсёды жылі людзі «сціплага» дару, іх шмат, асабліва на нашай зямлі, якая не стамляецца нараджаць таленты…

Леанід Улашчанка адразу, з моманту паступлення ў Беларускі тэатральна-мастацкі інстытут, прыцягваў да сябе ўвагу. Яго выгляд вельмі пасаваў для тэатра: брунет з гарачым позіркам, пластычны рух. Пасля заканчэння інстытута Леаніда Улашчанку размеркавалі ў Тэатр юнага гледача. Служыць там ён і па сённяшні час.

Акцёрскае майстэрства напрацоўваў з ролі ў ролю, марудна, год за годам. У тую пару ў асяроддзі тэатральных крытыкаў даводзілася чуць: фактурны хлапец, але больш бярэ выглядам, нутра не хапае... Але праца заўсёды перамагае, і тое, што назапашана, у рэшце рэшт, праявіць сябе.

Час маладога акцёра Леаніда Улашчанкі прыйшоў у пачатку 70-х гадоў XX стагоддзя, калі ў Рэспубліканскім тэатры юнага гледача Беларусі з'явіўся вядомы ўжо на ўвесь Саюз рыжскі (пасляпературбацый напрыканцы XX стагоддзя на ўсходнееўрапейскай


*Леанід Улашчанка.*

прасторы яго запрасілі рэжысёрам у славуты маскоўскі МХАТ імя Чэхава) рэжысёр Мікалай Шыйко. Некалькі сезонаў у пачатку 70-х ён узначальваў наш ТЮГ у якасці мастацкага кіраўніка. Менавіта ў гэты час, упершыню за сваю гісторыю, дзіцячы тэатр стаў лідарам тэатральнага мастацтва ў беларускай сталіцы.

Першым ноу-хау М. Шыйко на беларускай сцэне стала пастаноўка «Зялёнай птушкі» вялікага італьянскага драматурга XVIII ст. Карла Гоцы. У спектаклі было шмат цікавых мізансцэн і трукаў, мноства ўдалых акцёрскіх работ — Труфальдзіна (М. Пятрова), Смеральдзіна (Ю. Палосіна), Панталонэ (В. Лебедзева), Тарталля (У. Говара-Бандарэнкі). Вось і Л. Улашчанка добра прадставіў свайго Кальмона: яго герой быў жывы, тэмпераментны, добра рухаўся.

Але па-сапраўднаму талент маладога акцёра загучаў у наступным спектаклі М. Шыйко — у пастаноўцы знакамітай п'есы А. Валодзіна «З любімымі не расставайцеся». Тут у цэнтры спектакля была гісторыя кахання маладой пары — Каці і Міці. Галоўныя выканаўцы — Ю. Палосіна і Л. Улашчанка — прадэманстравалі незвычайны для беларускай сцэны ўзровень унутранай духоўнасці і яе эмацыянальнага выяўлення. Душэўны боль, так моцна і тонка перададзены гераіняй, гарманічна яднаўся з трагедыяй запозненага прасвятлення, якую нёс са сцэны герой. Героі п'есы, прадстаўленыя маладымі беларускімі акцёрамі, паспяхова канкуравалі з кінастужкай, дзе галоўныя ролі выконвалі А. Абдулаў, І. Алфёрава (нездарма спектакль нашага ТЮГа атрымаў Гран-пры прэстыжнага фестывалю ў Рызе ў наступным пасля прэм'еры годзе).

...Ішоў час. Сталела майстэрства Леаніда Улашчанкі-акцёра. Памятны спектакль «Паядынак», які ажыццявіў у 1984 годзе па п'есе М. Матукоўскага на сцэне ТЮГа рэжысёр У. А. Караткевіч. Л. Улашчанка іграў там Канстанціна Заслонава; яго герой заварожваў сваёй стрыманасцю, унутраней сілай (і ніякай лозунгавай бадзёрасці, што была так уласціва выкананню гэтай ролі адразу пасля вайны).

У 90-х акцёр таксама ўдзельнічаў у самых значных работах тэатра. Але найвышэйшую адзнаку майстэрства Л. Улашчанка прадэманстраваў пры другім вяртанні ў ТЮГ Гоцы ў пастаноўцы М. Шыйко (1997 г.). У ёй разам з шэрагам паспяховых работ маладых артыстаў вылучаліся два выдатныя вобразы, створаныя М. Пятровым (Брыгела) і Л. Улашчанкам (Тарталля), прычым у апошнім нечакана раскрыўся высокі імправізацыйны пачатак.

А ўжо ў «нулявых» новага стагоддзя Леанід Улашчанка ўразіў выкананнем у пастаноўцы М. Лашыцкага пушкінскіх «Маленькіх трагедый» аж трох роляў: Барона, Дон Хуана і Старшыні. Гэтыя тры вобразы кардынальна адрозніваліся адзін ад аднаго.

І самы апошні значны тэатральны здабытак — вобраз Эзопа ў спектаклі паводле знакамітай п'есы бразільскага драматурга Г. Фігейрэду «Ліса і вінаград» (у пастаноўцы рэжысёра Г. Мушперта). У Л. Улашчанкі атрымаўся вобраз, у якім дамінуе «свабодная вялікасць»; акцёр дэманструе высокасць розуму, хоць прыгнячаецца дэспатызмам, але выходзіць пераможцам.

Заслужаны артыст Рэспублікі Беларусь Леанід Улашчанка стаў і вядомым кінаакцёрам. Ён удзельнічаў у стварэнні тэлефільма «Маёр Ветраў», а таксама ў шэрагу тэлесерыялаў («Каменская», «Суд», «Тайны следства», «Абарона Красіна»). Чамусьці яму ўсё больш выпадае ўвасабляць у кіно вобразы генералаў (мабыць, адбіваюцца рысы характару, набытая мудрасць, знешняя фактура). Але ёсць і яшчэ нешта запаветнае ва Улашчанкі-мастака. Гэта яго дачыненне да чарадзейства казкі. Зразумела, калі ты творчая асоба і паўстагоддзя праслужыў у дзіцячым тэатры, то не толькі адчуваеш чарадзейства, але і жывеш у ім (да таго ж столькі вобразаў, створаных артыстам, дзе чарадзейства выяўляецца ў розных планах: пачынаючы з Кашчэя Бессмяротнага і заканчваючы Дросельмайстрам са «Шчаўкунка»). Але Леанід Улашчанка прайшоў далей. Ужо не адно дзесяцігоддзе ён стварае казкі і сам чытае іх па радыё. Атрымалася ўжо 3 цыклы такіх перадач: «Казкі дзядзечкі Рымуса», «Хлопчык з вялікай Місісіпі», «Казачныя літары». Да таго ж гэтыя казкі выходзяць асобнымі кніжкамі. Мяккая беларуская прастата (найярчэйшая характарыстыка нацыянальнай культуры) спалучаецца ў іх з інтанацыяй дабрыні і адкрытасці да нечаканасці ў пошуках цікавага.

**Вадзім САЛЕЕЎ**

# Акцэнты Вялікага: ад Анастасіі

Пераасэнсаванне класічных твораў, багацце прэм'ер і харавых феерый, абнаўленне трупы… Што чакае гледачоў у новым, 84-м, сезоне Вялікага тэатра оперы і балета Беларусі?

Планы ў тэатра вельмі амбіцыйныя. У той час як многія творчыя калектывы па ўсім свеце, асабліва на перыферыі, імкнуцца аптымізаваць колькасць новых праектаў, улічваючы няпростую эканамічную сітуацыю, сталічны Вялікі анансуе новы сезон з шасцю прэм'ерамі на асноўнай сцэне і адной — на камернай. Акрамя гэтага, застануцца ўсе традыцыйныя праекты: ад Мінскага міжнароднага Каляднага опернага форуму, міжнароднага конкурсу вакалістаў да вечароў Вялікага тэатра ў Радзівілаўскім замку і Вялікага бала. Будзе працягвацца актыўная работа ў рэгіёнах. Хор тэатра на чале з народнай артысткай Беларусі Нінай Ламановіч працягвае карпатлівую працу, каб парадаваць гледачоў новымі маштабнымі канцэртамі.

### УКЛЮЧЭННЕ НАЦЫЯНАЛЬНАГА

Па словах дырэктара Вялікага тэатра Уладзіміра Грыдзюшкі, ужо ў наступным сезоне беларускіх гледачоў чакае трэцяя нацыянальна-гістарычная пастаноўка «Анастасія», балет на музыку Вячаслава Кузняцова. Лібрэта — ад Анатоля Дзялендзіка, аўтара сцэнарыя да фільма пра княгіню Слуцкую. Харэографам выступіць народны артыст Беларусі Юрый Траян. Гэта стане неабходным дапаўненнем да вядомых беларускіх пастановак — балета «Вітаўт» і оперы «Сівая легенда».

### ПЕРАРАДЖЭННЕ ЛЕГЕНДАРНАГА

«Класічныя пастаноўкі, што ўжо прайшлі мноства разоў на сцэне, набудуць у нас другое жыццё, а не знікнуць з рэпертуару, як часта бывае на практыцы. Ідзе праца над абноўленымі "Тоскай", "Травіятай", "Севільскім цырульнікам", "Набука", "Багемай" у аўтарскіх сцэнічнай і рэжысёрскай рэдакцыях», — адзначыў Уладзімір Грыдзюшка. Таксама ў планах — звярнуцца да музыкі Рычарда Штрауса. Магчыма, беларускія гледачы пачуюць яго «Саламею» і "Так гаварыў Заратустра".

### АБМЕН ДОСВЕДАМ — ЗАМЕЖНЫ ЎПЛЫЎ

«У новым сезоне чакаецца "бум" замежных спевакоў, дырыжораў, рэжысёраў і танцоўшчыкаў. Яны прыедуць да нас выступаць», — паведаміў галоўны дырыжор Вялікага тэатра Віктар Пласкіна. У балетнай трупе Вялікага, магчыма, будзе папаўненне: малады артыст з Францыі і стажорка з Японіі. Гэта іх жаданне танцаваць менавіта на беларускай сцэне. Акрамя таго, з тэатрамі іншых краін падпісана больш за 30 пагадненняў, і трэба актыўней пераносіць іх у практычную плоскасць, як у сумесных пастаноўках, так і ў абменных гастролях. Так, 17 снежня на сцэне Вялікага оперу Чайкоўскага «Пікавая дама» пакажа Адэскі нацыянальны акадэмічны тэатр оперы і балета. Плануецца яшчэ раз звярнуцца да творчасці таленавітага чэшскага танцоўшчыка і харэографа Іржы Кіліяна і папоўніць колькасць пастановак з яго харэаграфіяй. Яны мелі велізарны поспех у беларускага гледача. Мастацкі кіраўнік балета Юрый Траян паведаміў таксама пра задумкі Вялікага паставіць складаны, маштабны і даволі дарагі спектакль «Карсар» Адольфа Адана пры ўдзеле аднаго з лепшых балетмайстраў-рэпетытараў Марыінскага тэатра Вячаслава Хамякова. Ён (як выключэнне з тэндэнцыі пераасэнсавання класікі) будзе абсалютна традыцыйным. І, нарэшце, балет Вялікага будзе актыўна гастраліраваць зімой і вясной, адправіцца ў Германію, Галандыю і Егіпет. У апошняй краіне пра нас не чулі, напэўна, гадоў пяць.


*Чакаем вяртання балета «Пахіта» Людвіга Мінкуса.*

### ДАРОГУ МАЛАДЫМ

«Галоўная тэндэнцыя ў кадравых зменах — упор на маладых. У Вялікім правядуць некалькі конкурсаў для ўдзельнікаў аркестра, па выніках якіх з ліку юных артыстаў адбяруць тых, хто зможа ў далейшым далучыцца да асноўнага калектыву», — сказаў Віктар Пласкіна. Гэтая практыка надасць жвавасці ўжо вядомаму рэпертуару, адкрые магчымасці для пачаткоўцаў, якія хочуць рэалізаваць сябе на прэстыжнай сцэне.

# Інструменты душы

*Няхай заўжды свабодна*
*і трывала,*
*Каб нашу Беларусь душой пазнаць,*
*Гучаць струною скрыпкі і цымбалы*
*І песнямі гармонікі звіняць.*
*Няхай жа старажытна*
*нашы танцы*
*Хвалююць векаісныя гады,*
*Каб мы змаглі як мае быць застацца*
*Народам беларускім назаўжды.*

Гэтыя словы паэта-аматара Міколы Шынкевіча найлепш раскрываюць змест кнігі «Беларускія народныя музычныя інструменты», што нядаўна пабачыла свет у выдавецтве «Беларуская Энцыклапедыя імя Петруся Броўкі». Выданне падрыхтавана сумесна з Беларускім фондам культуры і выдадзена пры фінансавай падтрымцы Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь. Багата ілюстраваная (звыш 180 фотаздымкаў), кніга адкрывае дзіўны свет музычных інструментаў, распавядаючы пра гісторыю дуды, гармоніка, цымбалаў, шматлікіх духавых інструментаў, знаёміць з беларускімі майстрамі, якія іх стварылі, а таксама з вядомымі творчымі калектывамі і адметнымі музыкамі.

Час бяжыць, у вечнасць адыходзяць майстры, даследчыкі, губляюцца традыцыі. Занатаваць і захаваць іх для гісторыі і новых пакаленняў — надзённая задача ўсіх, каму блізкая і дарагая народная музычная спадчына. Гэту важную місію плённа рэалізуе «Беларуская Энцыклапедыя імя П. Броўкі», выдаючы кожны год каштоўныя кнігі. Варта нагадаць, што ў мінулым годзе завершана 6 томнае выданне энцыклапедыі «Культура Беларусі».

Кніга «Беларускія народныя музычныя інструменты» ўключае падрабязны рэестр (апісанне і фотаздымкі) музычных інструментаў паводле кніг вядомага даследчыка народнай музычнай культуры І. Назіной, а таксама энцыклапедыі «Беларускі фальклор», каля 30 артыкулаў вучоных, музейных работнікаў, кіраўнікоў вядомых і адметных творчых калектываў. Як




справядліва адзначае ва ўступным артыкуле кнігі доктар мастацтвазнаўства, прафесар Н. Яканюк, «беларускія музычныя інструменты — артэфакты мастацкай фальклорнай творчасці. Разам з майстрамі, намаганнямі якіх інструменты нараджаюцца, музыкантамі, якія на іх іграюць, музыкай, якая ствараецца творчай фантазіяй выканаўцаў і народам, эстэтычныя запатрабаванні якога заахвочваюцца, яны фарміруюць унікальны свет народна-інструментальнай культуры».

Упершыню даецца апісанне і характарыстыка музейных збораў Нацыянальнага гістарычнага музея, Музея гісторыі тэатральнай і музычнай культуры, Музея старажытнабеларускай культуры Цэнтра даследаванняў беларускай культуры, мовы і літаратуры Нацыянальнай акадэміі навук, Музея народных музычных інструментаў Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта культуры і мастацтваў, прыватных калекцый вядомых даследчыкаў і майстроў народных музычных інструментаў Уладзіміра Грома, Алеся Лося, Мар'яна Скрамблевіча, Дзмітрыя Ровенскага, музыкантаў і мастацкіх кіраўнікоў музычных гуртоў «Ліцвіны» Уладзіміра Бярберава, «Стары Ольса» Дзмітрыя Сасноўскага, этнатрыа «Троіца» Івана Кірчука, кампазітара і гарманіста Міхаіла Слізкага. У раздзеле «Па рабоце майстра знаць» прадстаўлена галерэя знакамітых беларускіх майстроў па вырабе музычных інструментаў. Фотаздымкі звыш 200 музычных інструментаў розных канструкцый і мадыфікацый, строяў і гукарадоў выдатна ілюструюць эвалюцыю іх развіцця на Беларусі. Неабходна адзначыць і выдатнае мастацкае афармленне кнігі Аленай Сітайла.

Важкі дадатак да кнігі — кампакт-дыск з запісамі вядомых і адметных музычных калектываў і індывідуальных выканаўцаў, якія шырока выкарыстоўваюць народныя інструменты ў сваёй музычнай практыцы, — заслужаных аматарскіх калектываў Рэспублікі Беларусь ансамбляў «Крупіцкія музыкі», «Паазер'е», «Палешукі», «Пастараль»,«Дударыкі», музычных гуртоў «Ліцвіны», «Стары Ольса», «Троіца», «Брэвіс», «Тутэйшая шляхта», капэлы беларускіх народных духавых інструментаў «Гуды», Нацыянальнага акадэмічнага народнага аркестра Рэспублікі Беларусь імя І. Жыновіча, Любові Галубіцкай, Сяргея Ярука, Анатоля Новікава, Барыса Харэвіча, Аляксея Бурнасенкі.

Кніга будзе выдатным вучэбным дапаможнікам для студэнтаў і выкладчыкаў музычных навучальных устаноў (пачынаючы з дзіцячых музычных школ), шырокаму колу аматараў народнага мастацтва. Выдадзеная на беларускай і англійскай мовах, у выдатным мастацкім афармленні А. Сітайла, кніга таксама можа стаць прыгожым прэзентацыйным выданнем для замежных гасцей...

**Тадэўш СТРУЖЭЦКІ,**
**аўтар праекта і складальнік кнігі,**
**намеснік старшыні Беларускага**
**фонду культуры**

# З розумам і пачуццямі

**Філарманічны сезон яшчэ не адкрыты, але для сустрэч з выдатнымі айчыннымі музыкантамі нагоды з'яўляюцца ў любы час. На пачатку верасня сольным канцэртам парадаваў піяніст, лаўрэат міжнародных конкурсаў Іосіф Сяргей.**

Яго праект «Ад разумнай класікі да шалёнай рамантыкі» ўжо знаёмы беларускай публіцы: цыкл канцэртаў з такой назвай пачаўся ў 2012 годзе. Прычым спачатку задуму ацанілі замежныя слухачы — як на Захадзе, так і на Усходзе, дзе Іосіф Сяргей прадстаўляе беларускую культуру.

Выхаванец Беларускай дзяржаўнай акадэміі музыкі, талент якога адзначаны званнем лаўрэата на пяці міжнародных конкурсах, прадставіў на канцэрце ў Мінску творы Ліста і Шапэна, Альбеніса і Дэбюсі, Рахманінава і Пракоф'ева. Але чым цікавыя Канцэрты Іосіфа Сяргея: ён любіць сумяшчаць розныя музычныя плыні і нават традыцыі. Напрыклад, джазавы эцюд Мікалая Капусціна сыходзіцца ў адной праграме з рапсодыяй на тэмы інданезійскага фальклору, створаную самім беларускім музыкантам, ці ёсць магчымасць паслухаць фартэпіянную апрацоўку І. Сяргея кітайскай п'есы. Не дзіва, што ў яго выкананні гучаць усходнія матывы: Іосіф Сяргей з'яўляецца ганаровым членам Асацыяцыі педагогаў фартэпіяна ў Кітаі, а таксама ганаровым прафесарам музычнай акадэміі ў інданезійскай Джакарце. Але куды б яго лёс ні заносіў (у далёкую Інданезію ды Кітай), ён лічыць сябе беларускім музыкантам і сваім выканальніцкім майстэрствам сведчыць пра высокі ўзровень музычнай падрыхтоўкі ў нашай краіне. І падчас замежных выступленняў іграе музыку, народжаную на сваёй радзіме.

**Марыя АСІПЕНКА**

# Слуцкай да сюжэтаў Італіі



*Адкрыццё сезона ў Вялікім. Сцэна з оперы «Вяселле Фігара».*

## АСАБЛІВАСЦІ РЭПЕРТУАРУ

Новы сезон прадставіць адразу два шэдэўры Моцарта — «Вяселле Фігара» (прэм'ера прайшла 4 і 5 верасня) і «Чароўную флейту» (чакаецца ў сакавіку), якую паставіць у абноўленай версіі ўжо вядомы айчыннаму гледачу па працы ў нашым тэатры нямецкі рэжысёр Ханс-Ёахім Фрай. Галоўны рэжысёр тэатра Міхаіл Панджавідзэ лічыць, што запрасіць менавіта носьбіта культуры і мовы таго народа, якому належыць пастаноўка, — гэта правільны ход, які дасць гледачам больш поўнае разуменне музычнага і драматычнага матэрыялу. Тым больш у нашага калектыву будзе магчымасць павучыцца ў еўрапейскага майстра.

Што тычыцца «Фігара», то гэта, зноў жа, праект, створаны ў супрацоўніцтве. Дырыжор-пастаноўшчык Алег Лясун, хормайстар Ніна Ламановіч працавалі з расійскімі мастакамі Алегам Скударам і Вольгай Ашкала, а пастаноўшчыкам выступіў галоўны рэжысёр маскоўскага Камернага музычнага тэатра імя Пакроўскага Міхаіл Кісляроў. Па яго словах, опера пастаўлена на рускай мове (што стала выключэннем з агульнай палітыкі Вялікага), каб унесці яснасць у тэкст арыгінала, наблізіць яго да гледача. Бо «Вяселле Фігара» — гэта бліскучая дынамічная камедыя з мноствам жартаў, якія павінны быць зразуметымі ў той жа момант, як прагучаць. Гэта адзін з прыкладаў аўтарскага чытання, хоць сам па сабе спектакль класічны. Тым не менш вельмі каларытны, дзе галоўная мэта — паказаць характары, узаемаадносіны, драму і камедыю.

З мінулага сезона на сцэну Вялікага пераходзіць пастаноўка Палада Бюльбюль-аглы «Каханне і смерць» (6 і 7 верасня). У канцы месяца можна будзе ўбачыць балет «Пахіта» Мінкуса з класічнай харэаграфіяй Марыуса Петыпа. Італьянскі каларыт прагучыць у пастаноўках Viva la Mama!, «Макбет» і «Тоска». З рускага — ужо вядомая «Царская нявеста» Рымскага-Корсакава (дзе галоўную партыю 8 верасня выконвала ўладальніца звання лепшай спявачкі свету 2015-га па версіі BBC беларуска Надзея Кучар), «Ор і Ора. Гісторыя кахання» Міхаіла Крылова (у музычнай рэдакцыі нашага кампазітара Алега Хадоскі). Адкрыццём стане і аднаактовы балет «Санеты» Пітэра Уорлака і Ральфа Воан-Уільямса. А Камерная зала адкрыецца ўжо ў гэты панядзелак канцэртам санат, прэлюдый, фуг і сатырычных вакальных цыклаў «Пад маскай блазна...», прысвечаных Дзмітрыю Шастаковічу.

**Марыя ВОЙЦІК**

## З першых вуснаў

### Канцэрты ад Надзеі Кучар:

*— Музычная адукацыя ў Беларусі мае высокі ўзровень, я ёй заўсёды хвалюся. У вучылішчы на музыказнаўстве я атрымала вельмі добрую базу, якая дапамагае ў рабоце і сёння.*

*Зараз у мяне шмат заказаў на песенныя канцэрты. У рэпертуар хочацца ўключыць нешта асаблівае, што рэдка дзе пачуеш, — з гэтых меркаванняў мне падыходзіць беларуская музыка. Можна яе такім чынам прапагандаваць.*

# Аб аб'яўленні конкурсу

**Установа адукацыі «Беларуская дзяржаўная акадэмія музыкі» аб'яўляе конкурс на замяшчэнне пасад (да 5 гадоў) прафесарска-выкладчыцкага складу з далейшым заключэннем кантракта ў выпадку выбрання на тэрмін, вызначаны Наймальнікам:**

| | | |
|---|---|---|
| 1 | кафедра фартэпіяна | — старшы выкладчык (2,0 шт. адз.)<br>— дацэнт (1,0 шт. адз.)<br>— загадчык кафедры (1,0 шт. адз.) |
| 2 | кафедра спецыяльнага фартэпіяна | — прафесар (1,0 шт. адз.) |
| 3 | кафедра харавога дырыжыравання | — старшы выкладчык (1,0 шт. адз.) |
| 4 | кафедра спеваў | — дацэнт (1,0 шт. адз.) |
| 5 | кафедра аркестравага дырыжыравання | — дацэнт (1,0 шт. адз.) |
| 6 | кафедра драўляных духавых інструментаў | — прафесар (1,0 шт. адз.) |
| 7 | кафедра струнных смычковых інструментаў | — прафесар (1,0 шт. адз.) |
| 8 | кафедра баяна і акардэона | — старшы выкладчык (1,5 шт. адз.) |

# Знітаванья

## Манюшку і Дуніна-Марцінкевіча аб'яднала ліра

**Ліра, сімвал як паэзіі, так і музыкі, стала элементам помніка кампазітару Станіславу Манюшку і драматургу Вінцэнту Дуніну-Марцінкевічу, што з'явіўся ў Верхнім горадзе сталіцы Беларусі. Менавіта Манюшка і Дунін-Марцінкевіч былі стваральнікамі першай у гісторыі оперы на беларускай мове «Сялянка», прэм'ера якой адбылася ў 1852 годзе. Творцы нібыта селі паразмаўляць на лаве, выкананай у форме ліры. Над кампазіцыяй працавалі скульптары Леў і Сяргей Гумілеўскія і архітэктар Яўген Міцько.**

Фота БелТА.

Праца пачалася яшчэ ў 2012 годзе, калі скульптары Леў і Сяргей Гумілеўскія бралі ўдзел у конкурсе на парны помнік Станіслава Манюшкі і Вінцэнта Дуніна-Марцінкевіча. Першапачаткова помнік мусіў з'явіцца каля Акадэміі музыкі, але праз недахоп месца яго паставілі ў скверыку каля Ратушы.

Каб зразумець скульптуру і прапусціць яе сэнс праз сябе, варта разглядзець работу ў дэталях. Сяргей Гумілеўскі лічыць:

— З аднаго боку, гэта помнік двум нашым выбітным асобам, а з другога — помнік першай у свеце беларускай оперы «Сялянка». Вельмі важным было, каб помнік упісаўся ў архітэктурны ансамбль Верхняга горада. Небяспечным падавалася рабіць скульптуру вялікай, каб яна не прыгнячала прастору, і ў той жа час нельга выконваць працу, якая б не адпавядала самому азначэнню помніка. У выніку, мне здаецца, скульптура ўдала ўпісалася ў асяроддзе.

Калі мы ўзгадваем пра стваральнікаў беларускай оперы, помнік не проста выконвае функцыю актывізатара памяці. Яму больш пасуе функцыя «паглыбляльніка» ў атмасферу, што панавала ў музычным і драматургічным асяродку беларускага Мінска. Дадзеная праца — той выпадак, калі разважаць над скульптурай варта, абапіраючыся на гістарычны і культурны кантэкст. Скульптуру не падзеліш па частках і не перавязеш у іншае месца. У Вільнюсе, напрыклад, бюст Манюшкі стаіць на пастаменце, на якім раней стаяў бюст Пушкіна. Тут жа само месца — Ратуша, дзе Манюшка вучыўся музіцыраваць, лаўка Агінскага і наогул Стары горад — усё гэта нібыта служыць дэкорам для герояў помніка.

Якую глебу для разважанняў помнік дае беларусам, акрамя сузірання эстэтычнай прыгажосці? Мастацтвазнаўца, прафесар, загадчык кафедры беларускай музыкі Беларускай дзяржаўнай акадэміі музыкі Вольга Дадзіёмава лічыць: «Значэнне скульптуры не толькі ў тым, што гэта высокамастацкі твор і артэфакт, але перадусім у тым, што сама лакалізацыя і ўключэнне ў архітэктурны і ментальны ландшафт беларускай культуры гэтых асоб (прычым менавіта двух асоб, знітаваных з беларускай культурай) маюць вельмі сур'ёзную значнасць — і выхаваўчую, і гістарычную. Становіцца зразумелым і месца беларусаў сярод іншых народаў. Беларусы — народ, які злучае традыцыі, мастацкія і канфесійныя плыні, якія тут атрымлівалі сілкаванне, гуртаванне, а сёння — і вяртанне».

І праз творчасць Вінцэнта Дуніна-Марцінкевіча, і праз творчасць Станіслава Манюшкі мы можам зразумець некаторыя тагачасныя беларускія рэаліі. Напрыклад, па творчасці Манюшкі, паводле Вольгі Дадзіёмавай, «можам рэканструяваць увесь змест культуры Беларусі, бо яго музыка — хатнія спеўнікі, оперная і інструментальная музыка — была неверагодна папулярная. Гэта трэнд свайго часу, па якім мы аднаўляем нашую культуру».

Ахарактарызаваць стасункі Манюшкі і Дуніна-Марцінкевіча ў XIX стагоддзі можна было б словам «знітаванасць» — у сяброўстве, працы над п'есамі, стварэнні першай беларускай оперы. Гэтая знітаванасць выявілася і ў самой скульптурнай працы. Знітаванасць прасочваецца тут не толькі паміж творцамі, але і з горадам, асабліва з той яго часткай, дзе помнік пастаўлены. На месцы гатэля «Еўропа» ў сярэдзіне XIX стагоддзя знаходзіўся мінскі гарадскі тэатр, дзе і адбылася прэм'ера беларускай оперы. І наогул сам Мінск — той горад, дзе пісаў п'есы Дунін-Марцінкевіч і дзе рабіў першыя крокі ў якасці кампазітара Станіслаў Манюшка.

Гэты помнік, не вырваны з кантэксту, а, наадварот, пагружаны ў яго, прымушае мінака прыпыніцца і асэнсаваць, хто мы і якія каштоўнасці маем за плячыма.

**Вікторыя ЧАПЛЕВА**

## *Культурны ракурс*

**Летам мы з мужам выправіліся ў падарожжа па знакавых мясцінах Беларусі. Убачылі шмат цікавага. Здавалася, больш уражанняў ужо не атрымаеш. Але ж калі апынуліся побач з Ружанскім палацам, то былі вельмі здзіўленыя яго веліччу і прыгажосцю. Трапляеш у іншае стагоддзе, іншае жыццё, дзе джынсы і майкі зусім не да месца — толькі доўгія сукенкі!**

**Ружанскі палац быў пабудаваны ў канцы XVI — пачатку XVII стагоддзяў канцлерам Вялікага Княства Літоўскага Львом Сапегам і стаў адным з важных цэнтраў палітычнага жыцця ВКЛ. На шчасце, будынак палаца захаваўся, і беларусы маюць магчымасць убачыць помнік архітэктуры, які спалучае два стылі — барока і класіцызм.**

**Наталля МАТОРА**

*Каб узяць удзел у конкурсе, дасылайце свае фотаздымкі на электронны адрас* **lim_new@mail.ru** *з пазнакай* **«Культурны ракурс»** *— лепшыя будуць апублікаваныя на старонках газеты!*

*Галоўныя ўмовы творчага спаборніцтва: цікава і арыгінальна сфатаграфаваць помнік гісторыі і культуры Беларусі (магчыма, на тэрыторыі іншай краіны) ці сфатаграфавацца каля яго. Прымаюцца і работы, зробленыя ў жанры сэлфі.*

*Рэдакцыя чакае не толькі ўдалага фота, але і лаканічнага, пераканаўчага тлумачэння, чаму менавіта гэты помнік падаецца вам самым значным. А таксама канкрэтных звестак пра аўтара здымка (імя, прозвішча, месца працы альбо вучобы, кантактныя дадзеныя). Аўтар можа даслаць некалькі фота. Пры адборы работ будуць улічвацца не толькі мастацкія якасці здымка, але і яго канцэпцыя, пераканаўчасць тэксту-тлумачэння.*

*Чакаем вашых фота на працягу ўсяго 2016 года і разлічваем на нязменную цікавасць да беларускай культуры!*

ЛіМ
Выходзіць з 1932 года
У 1982 годзе газета ўзнагароджана ордэнам Дружбы народаў

Заснавальнікі:
Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь,
грамадскае аб'яднанне «Саюз пісьменнікаў Беларусі»,
рэдакцыйна-выдавецкая ўстанова «Выдавецкі дом "Звязда"»

Галоўны рэдактар
Ларыса Іванаўна ЦІМОШЫК



Адрас рэдакцыі:
Юрыдычны адрас:
220013, Мінск,
вул. Б. Хмяльніцкага, 10-а
E-mail: info@zvyazda.minsk.by

Адрас для карэспандэнцыі:
220013, Мінск, пр. Незалежнасці, 77
E-mail: lim_new@mail.ru
Адрас у інтэрнэце: www.main.lim.by

Тэлефоны:
галоўны рэдактар — 292-20-51
намеснік галоўнага рэдактара — 292-43-03
адказны сакратар — 292-20-51
аддзел крытыкі і бібліяграфіі — 292-56-53
аддзел прозы і паэзіі — 292-56-53
аддзел мастацтва — 292-20-51
аддзел «Кніжны свет» — 292-56-53
бухгалтэрыя — 287-18-14
Тэл./факс — 292-20-51

Выходзіць раз на тыдзень па пятніцах.

Падпісныя індэксы:
63856 — індывідуальны;
63815 — індывідуальны льготны для настаўнікаў;
638562 — ведамасны;
63880 — ведамасны льготны.

Пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі сродку масавай інфармацыі № 7 ад 10.12.2012, выдадзенае Міністэрствам інфармацыі Рэспублікі Беларусь.

Выдавец:
Рэдакцыйна-выдавецкая ўстанова «Выдавецкі дом "Звязда"».
Дырэктар — галоўны рэдактар
Аляксандр Мікалаевіч КАРЛЮКЕВІЧ

Тэхнічны рэдактар, камп'ютарная вёрстка:
А. В. Бізункова

Камп'ютарны набор:
Д. А. Чарняўская

Стыльрэдактар:
Н. А. Святлова

Нумар падпісаны ў друк 8.09.2016 у 11.00

Ум. друк. арк. 3,72

Наклад — 1646.

Друкарня Рэспубліканскага ўнітарнага прадпрыемства «Выдавецтва «Беларускі Дом друку»
ЛП № 02330/106 ад 30.04.2004
г. Мінск, пр. Незалежнасці, 79.
Індэкс 220013

Заказ — 3372

Д 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12



ISSN 0024-4686
9 770024 468001 16036